# Шляхі беларускіх дзяцей у апошнюю вайну

(Працяг з № 29)

### Ніці БНП

Пачынаючы прыблізна ад канца ліпеня 1944 г. у Нямеччыне значна павесялела (для нас, ясна): калі перш тут былі толькі Беларусы ў г. зв. «остаўскіх лягерах» ды тыя, што працавалі на фэрмах, а, такім чынам, рухі як адных, так з другіх паза працай былі абмежаваныя, дык затое цяпер раптам зьявіліся тут масы Беларусаў, якія і з «маршбэфэлямі» і бязь іх, з мэтай і бяз мэты, езьдзілі з аднаго канца Нямеччыны ў другі, запаўняючы ўсе куткі гэтага краю. Калі перш сустрэць Беларуса паза лягерам ці фабрыкай было даволі цяжка, дык цяпер можна было наткнуцца на свайго земляка амаль даслоўна на кажнай станцыі, у кажным мястэчку. У гутарцы з такім суродзічам пасьля першага стандартнага пытаньня «Адкуль з бацькаўшчыны?», пачыналіся даведніцкія пытаньні тыпу «Ці ня сустракалі вы часамі «Х»? «Ці ведаеце «У» зь Менску ці Слоніма»? і г. д., і г. д.

Паявілася ў Нямеччыне гэтым часам і група людзей, якія выкарыстоўвалі ўсе магчымасьці, каб як найбольш езьдзіць зь месца на месца ўсюды, дзе толькі можна было сустрэць Беларусаў. Яны аднак езьдзілі зь ясна акрэсьленай мэтай. Гэта былі лучнікі й сябры падземнай Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП). Яны пашыралі ўсюды сярод сьвядомых і патрыятычна настроеных Беларусаў бюлетэнь свае партыі. Я ня ведаю, ці хто-небудзь з капэнскіх ці дэсаўскіх кіраўнікоў моладзі належаў да БНП, факт толькі, што літаратура гэтае партыі чыталася як у Капэне, так і ў Дэсаў. Зразумела, такога характару літаратура не магла чытацца ў прысутнасьці дзяцей, а дзеля таго прыходзілася ў такіх выпадках з гэтым хавацца.

Але затое паасобныя ідэі ці тэмы зь бюлетэню БНП распрацоўваліся, прытарноўваліся да ўзроўню дзяцей ды падаваліся ім у форме практыкаваных патрыятычна-ўзгадаваўчых гутарак.

**Малыя «панічы» ў новых касьцюмах.**

Не памятаю ўжо, адкуль прыйшло паведамленьне, з Бэрліну ці адміністрацыі лягеру, што ёсьць магчымасьць атрымаць для дзяцей цывільную новую вопратку. Адна толькі тэхнічная нявыгада была пры гэтым: аказалася, што гэтая вопратка знаходзіцца не ў нейкім складзе ў Дэсаў, але... ў Лодзі. Адтуль, у сувязі з франтовымі падзеямі Немцы вывозяць склады матар'ялаў і вопраткі, а ў гэткай сытуацыі можна й нам скарыстаць. Атрымаўшы належныя дакуманты выбіраецца туды Міхась С. і Ігнат Ш.

Мінае колькі дзён, а ад іх ніякае весткі. Дзеці, якія ўжо загадзя цешыліся атрыманьнем новае вопраткі, пачынаюць хутка сумлявацца, што наагул з гэтага штось выйдзе. Сумляемся й мы самі. Мінае яшчэ некалькі дзён. Аж вось раптам у лягер зьяўляюцца нашыя высланьнікі радасныя і з трыюмфальным выглядам.

На запасовых рэйках, ня вельмі далёка ад лягеру, стаіць заплямбаваны таварны вагон. Адчыняем яго — і вачом ня верыцца: ледзь не да самай столі запакавана дзіцячымі касьцюмамі. Усё новае зь іголкі. Цэлае паабедзьдзе займаемся перавожаньнем гэтых скарбаў у магазын.

Выпытваем нашых высланьнікаў, як ім удалося здабыць цэлы вагон і такое першараднае вопраткі. Аказваецца, у Лодзі пануе такі балаган, што, маючы крыху спрыту, можна рабіць самыя фантастычныя рэчы.

Пасьля нейкага часу дзіцячая маса мяняе свой выгляд. Аднолькавага колеру й крою СБМ-айская ўніформа рабіла дагэтуль зь дзяцей нейкую суцэльную, бескалёрную, зблякаваную масу. Цывільныя-ж касьцюмчыкі, розныя як кроем так і колерам, унесьлі сюды нейкую больш свабодную і весялейшую атмасфэру. Тым больш, што сваёй якасьцяй гэта была вопратка, якой дзецям напэўна яшчэ ніколі ў жыцьці ня прышлося насіць. А зь якой акуратнасьцяй і пільнасьцяй сачылі яны за ейнай чысьцінёй ды вастрынёй кантаў на портках.

### Адведзіны з цэнтру

Гэта самая няпрыемная, што можа здарыцца ў лягеры. Ужо за тыдзень трэба рыхтавацца, рэпэтаваць прывітаньні, трэба, каб лягер запраўды зіхцеў панямецку. Адным словам, прышлося папрацаваць і самім, і намучыць дзяцей.

І вось нарэшце прыехалі яны: Галоўны кіраўнік СБМ-у на Нямеччыну сп. Б., сп. Мэнцэль з аддзелу моладзі пры Ўсходнім міністэрстве ды яшчэ нейкія тыпы і афіцыяльны рэпартэр Усходняга міністэрства. Прыглядаліся яны да заняткаў нашых дзяцей, ставілі пытаньні, як ім паводзіцца ды наагул былі ўсім задаволеныя. Дзеці-ж, і мы таксама былі найбольш задаволены, калі яны нарэшце ад'ехалі. Трэба сказаць адн~~ак~~, што гэтая візыта мела і свой дадатны бок: мясцовае нямецкае кіраўніцтва зь яшчэ большай павагай адносілася да гэтых дзіўных, незалежных ад яго Weissruthenen, якіх зь вялікім шумам наведваюць навет высокія ўрадаўцы Ўсходняга міністэрства.

### У «Крывію»

У канцы жніўня загадам з Бэрліну паасобныя кіраўнікі й кіраўнічкі пачалі накіроўвацца ў школу «Крывія», што знаходзілася каля Майнінгэн у Турынгіі. Аб гэтай школе ў будучыні будзе гаварыцца асобна.

Туды накіроўваліся пасьля й здальнейшыя дзеці — хлопцы й дзяўчаты. Адтуль яны ўжо выходзілі калі ня кіраўнікамі, дык прынамся іхнымі заступнікамі.

Туды вось прышлося паехаць Міхасю С. і мне. Не хацелася пакідаць свае групы, зь якой ужо моцна зжыўся.

Раніцай я сабраў хлапцоў свае групы, каб на разьвітаньне сказаць ім пару словаў. «Смаленскі Мішка», хоць і не належаў да гэтае групы, зьявіўся таксама. «Дрэнь дзела, спадар кіраўнік, хто ведае, калі пабачымся. Вы-ж толькі пішэце да нас...» — сказаў ён ціха й паважна, што ў яго рэдка здаралася. Некалькі хлапцоў прасілі дазволу праводзіць нас на станцыю. Тут далучыліся да нас яшчэ два кіраўнікі з Капэну, што таксама ехалі ў «Крывію». З хлапцамі, што адводзілі нас на станцыю, мы разьвітваліся не як зь дзецьмі, якімі нам даручылі апекавацца, але як з роднымі братамі.

(Працяг будзе)

А. ГАЛУБІЦКІ

## МЭМАР'ЯЛЬНАЯ ДОШКА Я. КУПАЛУ Ў ЛЕНІНГРАДЗЕ

«Зьвязда» з 28. 6. 55 паведаміла: «Гэтымі днямі на доме № 45 па 4-й лініі Васільеўскага Вострава, дзе ў свой час жыў Я. Купала, ва ўрачыстых абставінах ўстаноўлена мэмар'яльная дошка. На белым мармуры з барэльефам паэгы напісана золатам: «У гэтым доме ў 1909—1913 г. г. жыў народны паэта Беларусі Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч)».

«На мітынгу (ладжаным з гэтае нагоды) выступіла ўдава паэты В. Луцэвіч. Яна горача дзякавала за ўвагу, якую ленінградцы ўдзяляюць памяці Янкі Купалы».

# Жэнэўскія штрыхі

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

журналістых з польскімі варшаўскімі карэспандэнтамі, што наладзілі ў Доме Прэсы свой «дзень незалежнасьці». Нейкі польскі эмігранцкі журналісты, бачачы оргію, голасна крыкнуў з балькону: «Гэтая выпіўка куплена крывёй прагнучых волі Палякаў!» Покуль агенты аховы й парадку сілай вывелі гэтага «нявеглівага гасьця», ён змог яшчэ мацней крыкнуць: «Гэты банкет зьяўляецца абразай прэсы вольнага сьвету, таму што ў Польшчы вольная думка пазьверску прыгнятаецца». Цікавая рэакцыя прысутных на гэты ўчынак. Адныя працягвалі далей піць віскі, іншыя-ж пратэставалі супраць таго, што іхны калега быў сілай выдалены.

Як вядома, канфэрэнцыя пачалася ў вельмі «прыяцельскай і радаснай атмасфэры». Нашыя скептычныя заўвагі калегам па пяру прыймаліся зь недаверам. Аднак-жа, калі пасьля некалькіх дзён безрэзультатнасьць канфэрэнцыі пачала зарысоўвацца, не адзін з гэтых папярэдніх аптымістых задаваў нам шмат разоў надакучлівыя пытаньні: «Чымжа, па-вашаму, усё гэта можа закончыцца? Вы-ж лепш павінны ведаць расейскага сфінкса, расейскую натуру». Гэтыя пытаньні пасыпаліся асабліва тады, калі канфэрэнцыя зайшла ўжо ў тупік і пагражала закончыцца фіяскам.

Нашае цьверджаньне, што Масква пад ціскам цяжкага эканамічнага крызысу і напружаньня ўнутры краіны пайшла, і далей пойдзе, на доўгія, утомныя й бясплодныя канфэрэнцыі, знаходзіла потым у цьвярозых зразумленьне.

Расейцы да канца рабілі прыемныя й вясёлыя міны, і то навет тады, калі адна Французка ў часе іхнага праезду на канфэрэнцыю ў палац Лігі Нацыяў перарвалася праз ланцуг аховы й кінулася да машыны каб перадаць напісаную ёю просьбу расшукаць запалоненага ў СССР ейнага мужа.

Характэрна, што Расейцы ўсякімі спосабамі ўнікалі свабоднага выказваньня, баяліся падсунутых мікрафонаў і заўсёды з усьмешкай закрывалі іх далонямі, каб ня пусьціць непатрэбнага ці неасьцярожнага слова. Так рабіў Булганін і Хрушчоў, што граў на канфэрэнцыі ролю «дзядзі», так захоўваўся й маршал Жукаў, што быў прывезены на канфэрэнцыю «як стары прыяцель» Айзэнгаўэра.

Трэба адцеміць, што цэлы шэраг эміграцкіх арганізацыяў і эгзыльных урадаў выслаў канфэрэнцыі свае мэмарандумы адносна палажэньня сваіх народаў пад камуністычным ярмом. Іншыя паслалі сваіх прадстаўнікоў з такімі мэмарандумамі ў Жэнэву. Але шматлікія ня ўлічылі тых абставінаў, што разрозьненыя выступленьні заместа карысьці прыносілі толькі шкоду, дзе праблемы паасобных народаў зусім ня браліся наўвагу і не маглі знайсьці зацікаўленасьці ў атмасфэры абмеркаваньняў цэлых камплексаў розных пытаньняў. І тым больш сустракалі жывы водгук тыя, што якраз выступалі ў вабароне праблемы паняволеных камунізмам народаў у цэлым, не ўваходзячы ў дэталі пытаньняў, што адносяцца да паасобных народаў. Гэта сустракала зацікаўленьне сярод прадстаўнікоў Захаду і заходняе прэсы, а адначасна сьветчыла аб дружным салідарным выступе ўсіх прыгнечаных народаў.

Пры гэтым дасьветчаньне гаворыць аб тым, што ўсякія і навет найлепшыя мэмарандумы пасланыя поштай адрасатам няўхільна застаюцца ў розных шафах і не зьяўляюцца на сьвет, а асабіста ўручаны мэмарандум ды пасьля гэтага падстаўлены вольнай прэсе і шырока распаўсюджаны можа мець зацікаўленьне й водгук.

Перад намі, бяссумлеву, яшчэ цэлы шэраг розных канфэрэнцыяў, на якіх трэба йзноў заўсёды зьвяртаць увагу на праблему паняволеных камунізмам народаў, на іхнае жахлівае паложаньне пад бальшавіцкім ярмом. Але ня толькі Захаду, але й нам, прадстаўнікам паняволеных народаў, належыцца таксама вучыцца на ўдачах і памылках нашае акцыі ў змаганьні за вызваленьне нашых паняволеных краёў.

Г. В.

## Да ўвагі нашых карэспандэнтаў і дапішчыкаў

Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» гэтым зьвяртаецца да некаторых сваіх карэспандэнтаў і дапішчыкаў з настойлівай просьбай адносна прысыланых да друку матар'ялаў, а менавіта:

1) Просіцца падрыхтоўваць рукапісы па магчымасьці на кірылічнай машынцы, каб эвэнтуальна іх можна было адразу здаваць у набор.

2) У кажным выпадку просіцца пісаць рэдка, г. зн. праз адзін радок, пакідаючы гэтым месца для рэдакцыйных паправак.

3) Пісаць просіцца толькі на адным боку паперы з шыракаватым (прыбл. 4—5 цм.) адступам зь левага боку.

Прытрымоўваньне гэтых заўваг аблегчыць у значнай меры працу рэдакцыі, а таксама пазбавіць яе ад прыкрае канечнасьці адкідаць некаторыя дапіскі дзеля іхнага нядбайнага афармленьня.

З пашанай
**РЭДАКЦЫЯ**

# Крэмлёўская фінансавая палітыка й золата

Яшчэ перад кастрычніцкай рэвалюцыяй Ленін заўсёды запэўніваў, што пасьля прыходу да ўлады камуністых у Расеі ў сацыялістычным грамадзтве значэньне золата, як мэталёвай базы грашовай сыстэмы, будзе зьведзенае на нішто. Ён ішоў навет так далёка, што абяцаў у хуткай будучыні на столькі зьнішчыць значэньне золата ў сацыялістычнай грамадзкай сыстэме, што пераможная камуністычная партыя золата будзе ўжываць не як цэннасьць ці спосаб аздобы, але на рэчы зусім празаічныя і зусім зруйнуе даўную магутнасьць золата. Ленін прарочыў у блізкай будучыні золата выкарыстоўваць для спэцыфічнага ўладжаньня туалетаў.[1])

Калі расейскія камуністыя на чале зь Ленінам захапілі ўладу ў Расеі, дык хутка выявілася, што ім не пад сілу весьці змаганьне супраць ролі золата, як досыць вялікага вымерніка цэннасьці і ў выніку гэтага агульна вызнанай ягонай ролі, як сьветных грошаў. З таго часу, бадай 40 год, камуністычная ўлада Крэмля ўпорыста змагаецца не за зьменшаньне ролі золата, а за то, каб яго мець найбольш. Мроі Леніна вельмі хутка разьвеяліся, як прыемны для яго сон. Не дапамагла спроба перайсьці на непасрэдны прадуктаабмен. Савецкі фінансісты А. Юроўскі гэтак ацэньвае гэную спробу: «Перашкоды палягалі ў тым, што, папершае, бесканечна цяжка было ўстанавіць вялізарны лік колькасных адносінаў, ня гледзячы на тое, што ў тыя часы пытаньне якасьці тавару ўважалася другарадным, і, падругое, у тым, што для гандлю неабходная была зустрэча прадаўца і пакупца, якія маглі задаволіць адзін другога»[2]). Потым спроба ўвесьці «таварны рубель», г. зн. «Трэд» на працягу поўгоду была адкінутая, як неэфэктоўная.

К канцу ваеннага камунізму для Крэмля сталася ясным, што пункт гледжаньня галоўнага камісара Народнага Банку Спундэ, які быў выказаны ім яшчэ ў траўні 1918 году, ёсьць адзіна магчымы для камунісых Масквы. Спундэ прапанаваў наступнае: «Заданьнем савецкай улады ёсьць перайсьці да папяроза-грашовага абегу. Усе цэнныя мэталі пры такім абегу робяцца звычайным таварам, які будзе служыць фондам для разьлікаў з заграніцай».[3])

Дык сфармуляваная Спундэ савецкая валютная палітыка ёсьць тэй асноўнай фінансавай ідэяй, якая потым рэалізавалася Саветамі на працягу далейшых гадоў савецкага панаваньня. Навет лепшыя часы НЭП-у ў запраўднасьці ня робяць выключэньня з гэтай агульнай лініі, бо чырвонец, як залатая манэта, ня быў пушчаны ў вабег.

Ня цяжка пабачыць, што Саветы сыстэму папяровых грошаў выкарысталі для вызыску сваіх падданых і асабліва мелі й маюць у гэтых дачыненьнях вялікі эфэкт, калі з 30 гадоў перавялі курс папяровага рубля на нутраным рынку на сыстэму чатырох яго курсаў.

Але другая часьць валютнай палітыкі Саветаў — награмаджаньне дарагіх мэталяў і асабліва золата, паказалася вельмі цяжкаю праблемаю, якая ўвесь час вымагала ад Крэмля найбольш розных і суровых захадаў. Прычынаў гэтага было ня мала, і варта над імі затрымацца больш менш дакладна.

Перад Першай Сьветнай Вайною царат меў досыць паважныя запасы золата ў падвалах Дзяржаўнага Банку. Паводля некаторых дадзеных, гэтыя запасы аблічваліся ў два мільярды рублёў паводля парытэту ў золаце 1 рубель = 0.77423 грамаў шчырага золата. Іншыя крыніцы падаюць, што толькі ў вабегу было 494,2 мільёнаў рублёў у манэце. Колькасьць золата ў насельніцтва ў манэце, вырабах і стопах, звычайна, не знаходзіць сабе аблічэньня, бо насельніцтва ніколі ня ёсьць сьхільным падаваць дадзеныя аб колькасьці золата, якое ў яго знаходзіцца.

У Першую Сьветную Вайну царат затраціў значную часьць дзяржаўнага золата, каб пакрываць няспрыяльнае для Расеі сальдо вонкавага гандлю, асабліва пасьля ўступленьня ў вайну на баку Нямеччыны Турэччыны. У час вайны золата якое было ў насельніцтва ў манэце і вырабах, выпала з грашовага й таварнага абегу ў выніку зьняцэненьня папяровага царскага рубля. Кастрычніцкая рэвалюцыя ды амаль 4-ох гадовая грамадзянская вайна прынесьлі з сабой катастрафальнае зьменшаньне запасаў золата ў Народным Банку Саветаў. Гэтак на часы пачаткаў грашовай рэформы 1922—1924 гадоў Крэмль меў толькі 31,0 мільён залатых рублёў.[4]) Такія мізэрныя запасы золата навет пасьля канфіскацыі ўсіх цэннасьцяў у сэйфах і адабраньня золата, серабра і дарагіх каменьняў у цэрквах усіх веравызнаньняў ужо само сабой сьветчыла аб катастрафічным стане запасаў золата ў Народным Банку Саветаў. Гэта аб'ясьнялася ня толькі тым, шта Крэмль зь недастатку тавараў на экспарт у тыя часы быў прымушаны ўвесь імпарт ды іншыя выплачваньні за граніцай пакрываць вывазам золата. Значная частка золата была вывезеная за межы дзяржавы ўрадамі незалежных рэспублік пры іхным адыходзе на эміграцыю. Многія эмігранты таксама вывозілі з сабою ў першую чаргу золата і паколькі яны належылі да найзаможнейшых слаёў насельніцтва, дык з эмігрантамі таксама эміґравала не малая колькасьць золата. Ня мала золата было пазычана насельніцтвам у дзяржавы. Мала гэтага, тое золата, што асталося ў насельніцтва, сталася, так сказаць, нутраным эмігрантам. Пасьля прыходу камуністых да ўлады на цэлым прасторы Саўдэпіі ўтварылася безьліч сховішчаў золата, якое было закапанае ў садох, агародах і лясох. Гэтае золата цяпер не знаходзілася ў собскасьці былай буржуазіі, а належыла работнікам, сялянам і мяшчанам. Вось-жа перад Крэмлём паўстала цяжкая праблема — заўладаць гэтым золатам. Але ў тыя часы навет камуністычная дыктатура ня была здольная паліцыйнымі захадамі мець пасьпех у гэтак важнай справе.

Толькі фінансавая палітыка Крэмля пачаткаў НЭП-у прынесла Крэмлю некаторы пасьпех. Дазволеная ў тыя часы прыватная ініцыятыва ў гандлю, навет гуртовым, рамесьніцтве й лёгкай прамысловасьці, ня кажучы ўжо пра сельскую гаспадарку, выклікала асабліва вялікую патрэбу ў чырвонцах для задаваленьня хоць мінімальных патрэбаў у вабяговых коштах у цьвёрдай валюце для новай буржуазіі, г. зв. нэпманаў. Утварылася войстрая нястача папяровых грошаў у чырвонцах. Гэтую каньюнктуру выкарыстала савецкая ўлада. Неафіцыйна было дазволена весьці гандаль валютай на базарных чорных валютных біржах. На гэтых базарных біржах шырока разгарнулася й досыць адкрыта вялася купля й прадажа залатых царскіх манэт у 10 і 5 рублёў паводля курсу, які хістаўся ад 13 да 10,5 чырвонцаў за дзесяць залатых рублёў у царскай манэце. Былі мамэнты, калі была такая вялікая прапазыцыя на прадажу залатой царскай манэты, што за 10 залатых рублёў плацілі толькі 9 рублёў 50 капеек папяровымі чырвонцамі. Гэтае цікавае і вельмі рэдкае ў гісторыі валют зьявішча мела сваю прычыну ў войстрай патрэбе нэпманаў прадаць свае запасы залатых манэт для вядзеньня справы, якую можна было фінансаваць толькі папяровымі чырвонцамі, а ня царскаю залатою манэтаю, якая ня была ўзаконеным сяродкам плачэньня.

Ня цяжка было назіраць, як на валютных чорных базарных біржах тайныя агенты фінаддзелу скуплівалі для дзяржавы царскія залатыя манэты за папяровыя чырвонцы. Цяжка навет прыблізна сказаць, колькі золата было такім спосабам прыдбана камуністычнай дзяржаваю, але ў кажным выпадку справа выглядала так, што Крэмль фактычна ня толькі ня пусьціў у вабег залатога чырвонца, але пры грашовай рэформе якуюсь колькасьць золата за папяровыя чырвонцы прыдбаў для дзяржавы.

Такім спосабам у пачатках НЭП-у Саветы якуюсь часьціну золата адабралі ў сваіх падуладных. Але Крэмль ужо ў канцы пэрыяду НЭП-у выдаў спэцыяльны і тайны дэкрэт аб ужыцьці захадаў дзеля сьцягваньня валюты і іншых цэннасьцяў у касу Дзяржаўнага Банку.[5]) Гэтая пастанова спрычынілася да застасаваньня аж двух асаблівай сілы й жорсткасьці мэтадаў адабраньня золата ў насельніцтва, а паймення: 1) Арышты асобаў, у якіх, на думку НКВД, магло быць золата, і трыманьне іх у камэрах разам з крымінальнымі праступнікамі да таго часу, пакуль арыштаваныя асобы ня скажуць, дзе схаванае іхнае золата. У той час па ўсім СССР турмы былі перапоўненыя такімі вязьнямі, і гэтак цягнулася гады два. Такія ўвязьненьні грамадзян СССР называлі хваробаю на «залатуху». 2) Калі на «залатуху» перахварэлі ўсе ахвяры, якіх намеціла НКВД, крамы «Торгсіну», што раней абслугоўвалі выключна чужнікоў, пачалі прадаваць галадаючаму насельніцтву прадукты за золата, серабро й дарагія каменьні па цэнах золата і прадуктаў да Першай Сьветнай Вайны. «Торгсін» прыпыніў сваю дзейнасьць толькі тады, калі ягоныя апэрацыі сталіся вельмі малымі.

На сколькі былі эфэктоўнымі гэтыя два спосабы прымусіць насельніцтва здаць золата дзяржаве, можна бачыць з таго, што навет Молатаў сказаў: «Поруч з тым дабываньне золата ў СССР разам з прыплывам ад «Торгсінаў» збольшылася за 4 гады (1932 па 1935) у 6 разоў».[6]) Звычайна Молатаў ня ўспомніў пра «залатуху» і пра тое, што «Торгсін» за золата прадаваў ня чужынцам, а галадаючаму насельніцтву. А якраз гэтыя два захады далі найбольш золата для Крэмля, бо яны былі значна прасьцейшыя і шыбчэй дзеючыя, чымся разбудова золатадабывальнай прамысловасьці.

Можна ўважаць, што з закрыцьцём «Торгсіну» ў 1936 годзе Крэмль у васнаўным прыпыніў свае захады адбіраньня золата ў насельніцтва, бо меў уражаньне, што апэрацыі былі такія эфэктоўныя, што ў насельніцтва мала чаго асталося з золата й серабра — у манэце і вырабах.

Гэты кароткі перагляд захадаў Крэмля па адбіраньню золата ў насельніцтва дае магчымасьць зрабіць вывад, што на тэрыторыі СССР у межах граніцаў на 1 верасьня 1939 году ў насельніцтва мала што асталося з золата і іншых коштоўных мэталяў.

Міх. Паўлюк

---

[1]) «Большая Советская Энциклопедия», т. 17, бач. 155.

[2]) А. Юровский. «Денежная политика СССР», бач. 131.

[3]) «Денежный обег и кредит в России». Москва, 1914—1921, бач. 447—8.

[4]) А. Д. Гусаков и И. А. Димшиц. Денежный обег и кредит СССР». Держфинотдел, 1951, бач. 76.

[5]) С. У. 1929 г., пар. 38, бач. 292.

[6]) В. М. Молотов. «Доклад о работе правительства 7-му с'езду Советов», 1935, бач. 23.

(Заканчэньне ў наступным нумары)

# Веснавая сяўба на Беларусі

Сёлета веснавая сяўба праводзілася на Беларусі, як і ў іншых частках Савецкага Саюзу, у ўмовах значнай зьмены структуры пасеўных плошчаў. Гэтая зьмена была выклікана неабходнасьцю даць месца 400 тысячам гэктараў пад кукурузу пры пашырэньні пасеваў бульбы, лёну, цукровых буракоў.

У сувязі з гэтымі вялізарнымі задачамі падрыхтоўка да веснавой сяўбы ў БССР вялася асабліва старанна. Яшчэ 23 сакавіка сёлета ў Менску адбылася рэспубліканская нарада работнікаў сельскай гаспадаркі. Даклад «Аб мерапрыемствах па павялічэньню вытворчасьці і здачы дзяржаве сельска-гаспадарчай прадукцыі калгасамі і саўгасамі БССР» зрабіў старшыня Савету міністраў БССР Мазураў. Адзначыўшы посьпехі ў мінулым годзе і аб перавыкананьні плянаў здачы дзяржаве бульбы і лёну, Мазураў сказаў, што сельская гаспадарка «усё яшчэ вядзецца на нізкім узроўні і не забясьпечвае неабходных запатрабаваньняў народнай гаспадаркі БССР». Большасьць калгасаў і саўгасаў зьбіраюць яшчэ вельмі нізкія ўраджаі збожжавых культураў.

Апрача гэтай параднай нарады, 5-6 красавіка адбылася гэтак сама ў Менску яшчэ рэспубліканская нарада спэцыялістых сельскай гаспадаркі. Значная частка дакладу міністра сельскай гаспадаркі БССР Касьцюка была прысьвечана выкананьню пляну сяўбы кукурузы і пашырэньню пасеваў бульбы, лёну, махоркі, цукровых буракоў.

Варта яшчэ застанавіцца на выступленьні сакратара ЦК камуністычнай партыі Беларусі Патолічава. На сходзе камуністых, якія абраныя ў Менскай і Маладэчанскай вобласці на пасады старшынь калгасаў, Патолічаў сказаў:

«У мінулым годзе было засеена 48 тысяч гэктараў кукурузы і ў большасьці калгасаў атрымана добры ўраджай. У гэтым годзе мы павінны пасеяць на зерня ня менш 300 тысяч гэктараў і поўнасьцю забясьпечыць высокі ўраджай; 70-100 тысяч гэктараў кукурузы павінна быць засеяна на зялёны корм жывёле». («Советская Белоруссия» 11. 5. 1955).

Гаворачы аб сяўбе лёну, Патолічаў адзначыў, што трэба прыняць захады, каб лён стаў на Беларусі вядучай культурай, якой зьяўляецца бавоўна ў Сярэдняй Азіі. Дзеля вырашэньня гэтай задачы ў гэтым годзе пасевы лёну павінны быць павялічаныя на 81 тысячу гэктараў. Да рэчы трэба адзначыць, што ў 1932 годзе было занята 279 тысяч гэктараў лёну бяз вобласьцяў Заходняй Беларусі. Такім чынам плошчы пад лёнам яшчэ не дасягнулі даваеннага часу.

Сёлета пад вядучыя культуры на Беларусі павінна быць засеяна:

Бульбы . . . 1 мільён гэктараў,
Кукурузы . . 400 тыс. „
Лёну . . . 260 „ „

У мінулым годзе веснавая сяўба на Беларусі была ў васноўным закончана да 1 чэрвеня. Сёлета на гэты тэрмін заставалася пасеяць яшчэ значныя плошчы ўсімі культурамі. Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР у ваглядзе веснавых палявых работ на 25 травеня прымушана было прызнаць становішча зь сяўбой кукурузы пагражаючым і палічыла неабходным:

«Прыцягнуць на сяўбу кукурузы максімальную колькасьць калгасьнікаў, работнікаў і служачых прадпрыемстваў, вучняў сярэдніх і сямігадовых школаў» («Советская Белоруссия» 28. 5. 1955.).

Па дадзеным на 5 чэрвеня толькі ў двух раёнах Беларусі калгасы нібы закончылі сяўбу яравых культураў. Коханаўскі раён Віцебскай вобласьці тэрытарыяльна ня зьвязаны з Жабніцкім раёнам Берасьцейскай вобласьці і посьпех іх зьяўляецца выпадковасьцю.

Адначасна з правядзеньнем веснавой сяўбы, прыходзіцца выпраўляць хібы сяўбы восеньню. Як адзначае «Советская Белоруссия», у шмат калгасах выяўлены «значныя плошчы рэдкай сяўбы, а таксама шмат пагібелі пасеваў азімых культураў». Міністэрства сельскай гаспадаркі патрабавала, каб калгасы засеялі гэтыя плямы грэчкай, просам і кукурузай, і не паменшыць агульных збораў збожжа.

Наколькі зацягнулася веснавая сяўба на Беларусі, паказвае прыведзеная параўнальная табліца выкананьня пляну сяўбы на 1 чэрвеня 1954 і 1955 г.г. у працэнтах:

| | Усе яравыя | Кукуруза | Бульба | Лен |
|---|---|---|---|---|
| **Берасьцейская вобласьць** | | | | |
| 1955 г. | 75,6 | 78,8 | 68,9 | 94,6 |
| 1954 г. | 93.0 | — | 95,7 | 89,8 |
| **Менская вобласьць** | | | | |
| 1955 г. | 68,5 | 64,4 | 64,5 | 92,4 |
| 1954 г. | 87,8 | — | 95,4 | 110,0 |
| **Горадзенская вобласьць** | | | | |
| 1955 г. | 67,9 | 63,3 | 41,9 | 93,7 |
| 1954 г. | 89,3 | — | 81,2 | 91,9 |
| **Віцебская вобласьць** | | | | |
| 1955 г. | 65,0 | 49,3 | 50,2 | 82,1 |
| 1954 г. | 91,9 | — | 70,6 | 96,5 |
| **Гомельская вобласьць** | | | | |
| 1955 г. | 72,7 | 81,3 | 81,8 | 99,9 |
| 1954 г. | 82,8 | — | 97,1 | 100,5 |
| **Магілеуская вобласьць** | | | | |
| 1955 г. | 62,0 | 66,2 | 46,2 | 90,6 |
| 1954 г. | 79,5 | — | 77,7 | 89,1 |
| **Маладэчанская вобласьць** | | | | |
| 1955 г. | 47,7 | 28,1 | 27,6 | 38,7 |
| 1954 г. | 88,5 | — | 73,8 | 91,8 |

Патрэбна адзначыць, што веснавая сяўба сёлета мала таго што надзвычайна зацягнулася, захавала і ўсе недахопы мінулых гадоў. Тыя-ж шматлікія прастоі трактароў з прычыны тэхнічных недакладнасьцяў, дрэнная, а часта проста нягодная апрацоўка палёў. Шмат кукурузы і бульбы ня ўзыйшло. На кукурузных і бульбяных палёх шмат голага поля.

«Выпадкі няўзышоўшых гнёздаў бульбы ў выніку дрэннай якасьці насеньня і недахопаў у арганізацыі пасадкі ў некаторых калгасах дасягаюць дзесяці і больш працэнтаў. Гэта напэўна будзе заметная ўтрата ўраджаю» («Сельское хозяйство» 12. 6. 1955.).

Такая-ж нездавальняючая якасьць сяўбы кукурузы, калі ня горшая:

«У некаторых гнёздах кукурузы выяўлена згніўшае насеньне. У шэрагу калгасаў Камянецкага раёну Берасьцейскай вобласьці на палёх выгніла да чвэрці ўсіх гнёздаў. Прыкладна такое становішча ў шмат якіх калгасах Горадзенскай і Гомельскай вобласьцяў. У паасобных мясцох ранейшая сяўба дала рэдкія ўсходы. Таму важна не адкладваючы часу цяпер-жа падсеяць і падсадзіць кукурузу. («Сельское хозяйство», 24. 6. 1955.).

Тыя-ж шматлікія выпадкі нізкай вытворчасьці працы. «Праца пасеўных агрэгатаў пачынаецца з 10-11 гадзіны раніцы і канчаецца а 5-6 гадзіне вечара». Не сьпяшаюцца трактарыстыя ўжываць абрыдлага сацыялістычнага спаборніцтва на вясновой сяўбе:

«Большасьць трактараў Клімавіцкай МТС працуе ў вадну зьмену — днём, выпрацоўку трактарыстыя дзеляць паміж сабою пораўну («Советская Белоруссия» 28. 6. 1955.).

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

# Фізычнае выхаваньне ў БССР

Фізычнае ўзгадаваньне належыць да вельмі важных узгадаваўчых мамэнтаў. Гэтую праўду бальшавікі ўцямілі з самага пачатку і «знацыяналізаванай» фізкультурай здабылі найлепшы ключ ня толькі фізычнага разьвіцьця моладзі, але — і гэта для іх найважнейшае —для кантролю й накіроўваньня ейнага ідэялягічнага росту.

Кажнаму з нас вядомы пацяг моладзі да спорту й гульняў — да спаборніцтва, да змаганьня, да выяўленьня свайго спрыту, сілы, маладосьці. Рыса гэтая характэрная моладзі наагул, ну і пэўна-ж, у ніякай меры не пазбаўлена яе і моладзь беларуская.

Спорт на Беларусі заўсёды карыстаўся вялікай папулярнасьцяй, хоць часта ўмовы для ягонага разьвіцьця былі надзвычай цяжкія. Аднэй з найбольшых перашкодаў былі матар'яльныя цяжкасьці жыцьця беларускае моладзі. Змушаная з самых раньніх год займацца непасільнай фізычнай працай, яна траціла ўсе аб'ектыўныя магчымасьці клапаціцца аб сваёй фізычнай культуры. Да гэтага часта даходзілі й даходзяць мамэнты характару палітычнага, калі з-за пачуцьця варожасьці да акупацыйнага рэжыму моладзь адмаўлялася ад усялякага ўдзелу ў арганізацыйным жыцьці, а праз гэта часта і ад удзелу ў жыцьці фізкультурным.

З усіх дасюлешніх палітычных рэжымаў на Беларусі бальшавіком удалося найшырэй і наймацней укараніць фізкультуру й спорт ў беларускім насельніцтве. Сталася гэта дзеля таго, што бальшавікі ўмеюць выкарыстоўваць псыхалягічныя мамэнты моладзі для адпаведнага палітычнага ўзгадаваньня, а таксама й таму, што кіраўніцтва фізкультурным і спартовым жыцьцём ляжыць у руках дзяржавы, якая ў гэтай дзялянцы распараджаецца вялізарнымі магчымасьцямі. Такім чынам, спорт на Беларусі мае сяньня вялікае прытарнаваньне, мае шмат сваіх выдатных прадстаўнікоў, прадстаўляецца ў шмат якіх відах і дае цікавы матар'ял для назіраньня жыцьця беларускае моладзі.

У сувязі з вышэйсказаным мы хочам пазнаёміць паважаных Чытачоў «Бацькаўшчыны», асабліва маладых, з тым, што робіцца цяпер на Беларусі ў спартовай дзялянцы. Гэта дапаможа нам трымаць лучнасьць з жыцьцём нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне ды й з нас сяго-таго мо заахвоціць да гэтай карыснай і прыгожай грамадзкай праявы, якой зьяўляецца спорт.

### Як глядзяць бальшавікі на фізкультуру

Пачнем хіба ад агульнага азнаямленьня із фізкультурай у СССР, што вельмі важна. Вось-жа фізкультура ў Савецкім Саюзе, як і ўсё іншае, належаць дзяржаве. Пра фізкультуру Вялікая Савецкая Энцыкляпэдыя кажа так: «Фізкультура ў СССР — гэта сукупнасьць мерапрыемстваў, якія ажыцьцяўляюцца **дзяржаўнымі** (падкр. у цыт. усюды намі — А. Б.) і грамадзкімі арганізацыямі». Аб мэтах, якія ставіць перад сабой савецкая фізкультура, там-жа сказана: «Фізкультура ў СССР дбае аб **грамадзка-палітычнай** мэце: падрыхтоўка насельніцтва да высока-вытворчае сацыялістычнае працы й абароны краю, удзел у справе камуністычнага ўзгадаваньня грамадзян і судзеяньне ў разьвязаньні заданьняў гаспадарчага й культурнага будаўніцтва».

Як бачым з гэтага, на фізкультурныя арганізацыі кіраўнікамі савецкае дзяржавы ўскладаецца вельмі важнае й адказнае заданьне. Ня дзіва таму, што фізкультура ў СССР апынулася поўнасьцяй пад партыйным кантролем, і што партыя зацікаўлена ў заахвочваньні моладзі да фізкультуры. Робіцца гэта аднак не зь якіх-небудзь гуманітарных пачуцьцяў, а з разьлікаў чыста палітычных.

### Крыху агульных дадзеных

Вестак зь гісторыі фізкультуры на Беларусі мы маем надта мала. Крыніцы, зь якіх можна што-небудзь даведацца на гэтую тэму — гэта савецкія выданьні, што адзначаюцца звычайна страшэннай тэндэнцыйнасьцяй. Наагул аднак трэба сказаць, што гэтая тэма ў беларускай гісторыі зусім не закрананая. Прыкладам, выпушчаны нядаўна першы том «Гісторыі БССР», які ахоплівае пэрыяд ад самага пачатку аж да 1917 году, ня кажа нічога аб фізкультуры на Беларусі ў мінулым. Прыпушчаючы, што фізкультура да пэўнай ступені зьяўляецца функцыяй узроўню матар'яльнага жыцьця народу, трэба таксама меркаваць, што на Беларусі пад царскай акупацыяй яна насіла выключна народны характар і ніякай арганізаванасьцяй не адзначалася.

Што да расейскай імпэрыі наагул, дык, калі верыць савецкім дадзеным, фізкультурныя практыкаваньні былі ўведзены ўпяршыню ў сыстэме абвучэньня царскага войска ў эпоху рэформаў Пятра І-га. У 1859 г. былі выдадзеныя першыя «Правілы для абвучэньня гімнастыкі ў войску». Каля сярэдзіны XIX ст. пачынае разьвівацца спорт і сярод грамадзкага насельніцтва ў форме спартовых гурткоў і клюбаў вучнёўскае і працоўнае моладзі. У канцы XIX ст. зьяўляюцца першыя гімнастычныя і спартовыя таварыствы і клюбы. Паводля дадзеных розных даведнікаў (агульных статыстык тады яшчэ ня было) прыпушчаецца, што каля 1917 г. колькасьць спартовых арганізацыяў і клюбаў у Расеі сягала да 800 з агульнай колькасьцяй сяброў каля 45—50 тысяч. Аднак на цэлую царскую імпэрыю ня было ніводнага стадыёну.

Пры бальшавіках фізкультурнае жыцьцё інтэнсыфікуецца і распаўсюджваецца. У 1918—19 гг. закладаюцца першыя навуковыя фізкультурныя ўстановы, ствараюцца ваенна-спартовыя клюбы і пачынаюцца спартовыя спаборніцтвы. У 1920—21 пачынае арганізоўвацца сетка саветаў фізкультуры. У 1928 г. у Маскве праводзіцца ўсесаюзная спартакіяда прафсаюзаў. У 1930 г. пры ЦВК СССР ствараецца Ўсесаюзны савет фізычнае культуры з адпаведнымі саветамі на мясцох. У міжчасе партыйны ЦК прыняў быў колькі пастановаў, накіраваных на замацаваньне як самога фізкультурнага руху, так і кантролю над ім.

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

Брачыслаў Скарыніч

# Трэба мацнейшая нацыянальная атмасфэра

Свой артыкул «Скончма дыскусію пра распакоўваньне». [«Бацькаўшчына» Но. 19 (249)] я скончыў цьверджаньнем, што, каб не асыміляваўцца, трэба споўніць некаторыя ўмовы, і што — аднэй із такіх умоваў ёсьць недапушчэньне да мешаных із чужымі жаністваў. У гэтым артыкуле хачу разгледзіць другую ўмову неасыміляваньня.

Але сп. Ул. Немановіч сваім артыкулам «Дыскусія яшчэ нясконьчаная» [«Бацькаўшчына», Но. 23 (253)] прымушае мяне крыху адхінуцца ад тэмы, каб із ім крыху пагамаміць.

У канцу менаванага свайго артыкулу я напісаў, што «Пра дзьве другія ўмовы неасыміляваньня другім разам», зн., што я хачу весьці далей дыскусію на гэтую тэму; а тымчасам сп. Немановіч прыпісуе мне, што я намагаюся «паставіць пункт над дыскусіяй пра распакоўваньне. Хоць пункты ставяць і ў сярэдзіне артыкулу, але, відавочна, Немановіч мае наўвеце тут пункт навет не на канцу артыкулу, але на канцу разгляданае тэмы.

Другое. Я сказаў, што ў Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі бяруць да войска і не грамадзян, зн., што да войска няма розьніцы, будзеш ты амэрыканскім грамадзянінам ці не; а прымеж таго сп. Немановіч узноў высоўвае вайсковы мамэнт у справе амэрыканскага грамадзянства. Гэтак дыскутуючы, мы дыскусіі ніколі ня скончым.

Што да нашае эміграцыі ў Задзіночаных Гаспадарствах, то я хіба бачу ў ёй болей заганаў, чымся сп. Немановіч, але мы, відавочна, розьнімся ў суленых спосабах паправы палажэньня. Калі сп. Немановічу ясныя такія спосабы, то нельга сказаць, каб ён іх ясна падаў. Паціснуўшы добра ўсё ягонае пісаньне на гэтую тэму, можна выціснуць адно тое, што багацьце перашкаджае нацыянальнай працы. Калі-б так запраўды было, дык у Задзіночаных Гаспадарствах праблемы ніякае ня было-б, бо яшчэ нікому з нашае новае эміграцыі тут багацьце не пагражае.

Праўда, пакуль у нас у Бацькаўшчыне нацыянальнае адраджэньне ня было пашырыўшыся, пакуль агульна ўважалі, што людзі «простае мовы» — гэта толькі «простыя людзі», мужыкі, і пакуль пры беларускай мове заставаліся адно тыя, што іншае мовы ня ўмелі, тады хто багацеў або так ці накш праўдзіва ці няпраўдзіва, пераставаў быць «простым», той сьведама адыходзіў ад усяго «простага». Але нашая новая эміграцыя ўжо вышла з гэткага стану. Пэўне-ж можа здарыцца, што хтось багацее і з таго альбо іншага гледзішча перастаець быць нацыянальна дзейны. Прычына, адылі, тут не ў багацьцю, але ў чым іншым, і калі-б такі Беларус галеў, то ад гэтага ён лепшы ня быў-бы.

Апрача адзінага менаванага «спосабу паправы» сп. Немановіч робе два конкрэтныя ўпікі. Адзін із іх ён выказуе гэтак: «Навет і цяпер існуюць платныя становішчы, вельмі важныя з нацыянальнага гледзішча. Выбар на гэтыя становішчы аднак вельмі абмежаваны з тэй простай прычыны, што людзі ня хочуць «разыкаваць».

Другім упікам ёсьцека, што «некаторыя радныя БНР, маючы на банкавым конце па некалькі тысяч, ня плацяць навет месячных складак». Ня думаю; каб гэныя тысячы ў банку, ня толькі аб'ектыўна, але й суб'ектыўна каму-колечы перашкаджалі плаціць. Відавочна, ёсьць іншыя прычыны, не матар'яльнага характару.

Сп. Немановіч зазначае, што «мы (зн., ён, Немановіч — Я. С.) ня зьбіраліся даваць конкрэтных рэцэптаў паасобным адзінкам». Вельмі шкада. Як ведама, толькі канкрэтныя рэцэпты маюць значэньне, тыя-ж агульныя, што знаходзім у рэклямах, звычайна шкодныя. У канкрэтных рэцэптах пішуць прозьвішча таго, каму рэцэпт выданы. Я думаю, што таксама ў жыцьцю грамадзкім карысна было-б падаваць прозьвішчы крытыкаваных; гэта надта памагло-б выясьненьню й паправе справы. Канечне трэба падаваць прозьвішчы тых крытыкаваных, каторыя зычаць гэтага. Я пэўны, што такія ёсьцека. Што да мяне, дык я цяпер выказую гэтае зычэньне, калі-б мне хто што ўпікнуў. Ведама, выказуючы такое зычэньне, кажны разумеў-бы, што яму будзе даная поўная магчымасьць выясьненьня ў тым самым часапісе або газэце, дзе ён быў крытыкаваны.

Сп. Немановіч радзе ўзяць нам прыклад із польскае эміграцыі. Наагул кажучы, такі прыклад мог-бы быць толькі ад'емнага характару, зн., не рабіць таго, што робіцца ў новай польскай эміграцыі. Але ёсьць і вынятак. Вось часапіс «Зачын» друкуе безь ніякіх абмежаваньняў пагляды розных старонаў і гэтым вельмі прычыняецца да ўздараўленьня польскага грамадзкага жыцьця. Калі сп. Немановіч знае такі беларускі часапіс, што на гэта згадзіўся-б, дык я ахвотна павяду зь ім дальшую дыскусію, і я пэўны, што з карысьцяй для справы. Калі-ж такога часапісу ён ня знойдзе, дык хай застанецца здароў; у такім прыпадку дыскусію зь ім буду ўважаць за скончаную.

Пераходжу да разгляду свае тэмы. **Другой умоваю неасыміляваньня ёсьць стварэньне моцнай нацыянальнай атмасфэры ў жыцьцю нашае эміграцыі.** Тут гэтулькі работы, што, маючы яе наўвеце, шкода часу на бясплодныя сьпіраньні пра «распакаваньне». Мы мусім стварыць такую атмасфэру, каб тысячы год застаючыся на эміграцыі, Беларусы не асыміляваліся, і каб адначасна яны былі псыхічна здольныя кажную часіну зьвярнуцца да вольнае або вызвалянае Бацькаўшчыны. Тут мала духоўнае вязі з Бацькаўшчынаю, бо такая вязь у пакаленьня, народжанага на чужыне, будзе шмат слабшая, патрэбная яшчэ моцная псыхічная й культурная вязь із Беларусамі й беларушчынаю ўсюдых, дзе яны ёсьць альбо будуць.

Я пераходжу да таго, што трэба рабіць, каб такая атмасфэра стварылася. Зацемлю, што ў дальшым я буду тарнавацца да патрэбаў беларускае эміграцыі ў Задзіночаных Гаспадарствах. Галоўныя патрэбы нашае эміграцыі ў іншых краёх будуць такія самыя, а што да меншых, дык каб ім досыць учыніць, застанецца толькі прытарнавацца да мясцовых умоваў.

### Хата — радзіма

Бацькі і ўсе хатнія павінны глядзець, каб дзеці дома гаманілі вылучна пабеларуску. Бацькі маюць навучыць дзеці маліцца пабеларуску

Дзеці трэба прывучыць маліцца за Беларусь і беларускі народ. Бацькі маюць паруціцца, каб дзеці мелі за таварышаў іншыя дзеці беларускія. Тут можна было-б шмат казаць, як бацькі і іншыя старшыя хатнія маюць прычыніцца да таго, каб із самага маленства дзеці ўзгадаваць у беларускім дусе. Людзі іншых нацыянальнасьцяў сваім дазнаньнем у гэтай справе дзеляцца міжсобку ў сваіх газэтах.

### Школа — навука беларусаведы

Школа, у каторай мае быць навука беларусаведы, як дапаўненьне да школы амэрыканскае, павінна абняць дзеці й моладзеж ад 6-ёх да 18-ёх год. Навука павінна адбывацца найменей па 2 гадзіны ў сыботу й нядзелю, а пажадана яшчэ і ў пятніцу (у пятніцу ўвечары). Дзе ёсьць хоць двое беларускіх дзяцей, там мусіць быць дапаўняючая беларуская школка.

Праграма спачатку мінімальная.

**З мовы.** Гаварыць пабеларуску, чытаць, пісаць граматычна, патрапіць выказаць свае думкі вусна й на пісьме.

**Зь літаратуры.** Прачытаць усе прыступныя на эміграцыі творы зь беларускае нацыянальнае літаратуры, давадам чаго мае быць напісаньне зьместу гэных твораў. Навучэньне напамяць некаторых ясных і бойкіх вершаў. Пазнаямленьне з выдатнымі пісьменьнікамі беларускімі і іхнай нацыянальнай ідэялёгіяй.

**Рэлігія.** Пазнаёміць із догмамі свае — праваслаўнае для праваслаўных, каталіцкае для каталікоў — веры. Пазнаёміць — проста, ясна, пераконуюча — зь гісторыяй свае — Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае і Беларускае Каталіцкае — Царквы і выясьніць патрэбу іх мець у будучыні. Агульным заданьнем навукі рэлігіі ёсьць прышчапіць рэлігійнасьць і пачуцьцё павіннасьці да Бога, свае Беларускае Царквы і свайго Народу.

**Геаграфія.** Ведаць граніцы Беларусі, галоўныя рэкі, азёры, й месты. Бліжэй пазнаёміцца з выдатнейшымі мясцовасьцямі беларускімі, як, прыкладам, із возерам Нараччам. Асаблівасьці рошчы (расьліннасьці) Беларусі (лясы) і ралейных культураў (лён, каноплі). Пазнаёміцца з харошымі тыпамі беларускіх людзёў.

**Гісторыя Беларусі.** Вучыць гісторыі як найшырэй ад пачатку аж догэтуль. Навуку гісторыі ўзгадняць з навукаю геаграфіі Беларусі і навет із навукаю беларускае літаратуры.

**Пяяньне.** Важнае значэньне ў навуцы павінна мець пяяньне. Трэба навучыць пяяць беларускія народныя, гістарычныя й патрыятычныя песьні. Таксама пяяньне можа быць да некаторае меры ўзгадняна з навукаю літаратуры, геаграфіі і гісторыі.

Пры навуцы мусіць быць ўсё прытарнавана да веку. Трэба ня толькі вучыць, але й навучыць. Навучаных пераставаць вучыць, але просьле году зрабіць ім кароткі паўторны курс.

Заданьнем беларускае дапаўняючае школы павінна быць узгадаваць беларускіх патрыётаў — дужалёў за свой народ.

### Як гэтага дапяць?

Каб менаванага дапяць, трэба а) каб бацькі пасылалі дзеці да беларускае школкі, а бязьдзетныя заахвочывалі бацькоў пасылаць, а дзеці вучыцца ў беларускай школцы; б) каб усе вучыцялі, а пры нястачы вучыцялёў іншыя інтэлігенты заняліся вучэньнем беларускіх дзяцей і моладзежы, працавалі ідэйна й дарма.

Трэба стварыць школьны фонд на матар'яльную памоту вучыцялём. Справа гэтае навукі ёсьць справою нацыянальнай, а ня толькі радзімнай. Дзеля таго трэба ў фонд зьбіраць самаахвотныя

Ул. Клішэвіч

# Васіль Каліна

Разьдзел другі

(Працяг, гл. № 39-40, 1954)

XXVII

Арына падыйшла к пасьцелі
Да сына моўчкі ўначы.
Пачуцьці маці ў сэрцы млелі,
А сэрца білася ўцячы.
Зірнула на дзіцячы твар —
Як нехта ўзьліў на яе вар,
Зьвінела цішшу у вушах.
Хвілінай гэткага спакою
Зь яго дзіцячаю душою
Зьлівалася яе душа.

XXVIII

Бядою радасьць затаптана,
Не адвязацца ад бяды.
Прад ёю з постацьцю Сьцяпана
Ўставалі прошласьці гады.
У адзінокае ўдавы
Сьцяпан як быццам быў жывы.
Праходзіў так за тыднем тыдзень.
Не патухала ў сэрцы страта,
Рабілася вялікай хата,
Здавалася, што хтось 'шчэ прыйдзе.

XXIX

Народ прыходзіць да узьдыму,
Зьмяняе шлях жыцьцёвых спраў.
Калісьці зьзяла царства Рыму,
Мангол паўсьвету абымаў.
Вялікі Грэк сказаў яшчэ,
Што ўсё зьменяецца, цячэ...
Другое сонца людзям гляне,
Зь вялікай бурай, неспакоем
Прытопчацца ўсё старое
Наверх узьнімуцца Славяне.

XXX

Хоць глыбіні Хрыстовай веры
Няма азначаных мяжы,
Арына ў Бога моцна верыць,
Перад грахом душой дрыжыць;
Яго заве, каб дапамог
Усемагутны творца Бог
На ўсякі час, на кажным кроку
І ёй самой, і яе сыну,
Што сіратою лёс пакінуў,
Каб не абходзіў бедных збоку.

XXXI

Багацьцем Случчына вядома.
Падчас здаралася, калі
Суседзям мець нястачу дома —
Усе мяшочнікі плылі,
Каб там набыць сабе харчы,
Да хаты іх завалачы,
Карміцца імі, пакуль новы
Час не прыходзіў ураджаю.
І сала й хлеб Случчане маюць,
Багацьце — Случчыны аснова.

XXXII

Сяляне летам не задрэмлюць.
Іх кліча поле, сенажаць;
Адны варушаць плугам зямлю,
Ідуць другія ў поле жаць.
Сьпяваюць голасна жанцы,
А песьня іх ува ўсе канцы
Нясецца звонка міма гаю,
Праз постасьці і праз дубровы
Адклікнуцца далёка словы
І здзесь далёка заміраюць.

XXXIII

Прыгожасьці ўсяе ня зьмерыць
І ўсёй красы ня перадаць:
На сонцы летам сьпеюць бэры,
Чароўні чырваньню гараць,
А пахам мёду і віна
Напоўнена садавіна;
У неба ўецца сьпеў вясёлы,
Пакуль ня прыйдзе позьні вечар,
На дрэве сьпеўна птах шчабеча,
Зьбіраюць мёд на кветках пчолы.

XXXIV

Васіль яшчэ хлапчук вясковы
Сярод хлапцоў такіх як сам
Вырошчваў погляды асновы
І вынаходзіў навет там,
Дзе-б іншы гэтакі парог
Пераступіць зусім ня змог
Яго і векам і узростам.
Калі хто іншы ня прыкмеціў
Складаных з'яў у гэтым сьвеце,
Дык ён іх бачыў ясна, проста.

XXXV

Ён быў устрыманы заўсёды
І прыглядаўся да ўсяго.
Штодзённасьць і часовасьць моды
Ня мелі посьпеху ў яго.
Хоць аддаваў увагу дню,
Але удумна глыбіню
Шукаў амаль у кажнай дзеі.
Уважліва глядзеў на рэчы,
А у грамадзтве чалавечым
Вучыўся сам, як лепей дзеіць.

XXXVI

Была спачатку простай школа:
Меў пяць авечак усяго.
Ён быў настаўнік, а жывёла
Служыла вучнямі ў яго.
Будынкам — поле і кусты,
Улетку дождж, туман густы,
Жнівамі жнівеньская сьпёка,
Увосень раніцаю іней
І песьня жаўранка, што гіне
У небе журбасьці высока.

XXXVII

Прыходзіў страх хлапцу малому
І ня было тады душы,
Як пачыналі гукі грому
Спакой у небе варушыць.
Карыстаючы з ласкавых запросінаў да выказываньня таксама і няспэцыяліс-
І заставалася яму
Любіць ня лета, а зіму
І быць патрэбна было дужым,
Цярпець часамі надта многа,
Перамагаць сябе самога,
Цяпліць у сэрцы кветкі сьцюжы.

XXXVIII

У кайстру хлеб, кусочак сала
Часамі пляшку малака
Дзіцяці раніцаю клала
Руплівая матчына рука.
Пастух кідае каравацць
(А хочацца яшчэ паспаць!)
І сам прыкуе свае рэчы:
Складаны нож кладзе ў кішэню,
Гарбузікаў з сабою жменю
І кайстру вешае за плечы.

XXXIX

Ці мала рознай недарэкі
На вёсцы баялі дзяды:
Што папраўляліся калекі
Ад пасьвянцонае вады,
Як пяруны зямлю гнялі —
То гнеў нябеснага Ільлі,
Перад даждджом лісты сухія
Стаўбом віхор на полі верціць,
Дык людзі кажуць гэта чэрці,
А ня прыродная стыхія.

XL

У тую шумную хвіліну,
Як віхар скача па ральлі,
Нажом у віхар трэба кінуць,
Як толькі чэрці там былі
Кроў застаецца на нажы.
Васіль старанньня прылажыў
І ног ня чуў сваіх ад болі,
Лятаў на віхар нож як дзіда
І колькі ён яго ня кідаў,
Крыві ня бачыў ён ніколі.

XLI

Хоць зразумеў Васіль няскора
Дваякі сэнс хлусьлівых слоў,
Калі адно табе гавораць,
А думаюць другое. Зноў
Пытаньне прыкрае ўстае,
Развагі тузае твае,
Але з таго, што ён праверыў
Сваімі ўласнымі рукамі,
Напрашваліся думкі самі:
Ня трэба браць усё на веру.

XLII

А Васілю пужаньні вашы,
Што ёсьць на сьвеце ваўкалак,
Малых дзяцей хто д'яблам страшыць,
Ня былі страшнымі ніяк.
Не апускаў дадолу нос,
А пастуха ўгору рос.
Якім-бы там ня несла пылам
Ад тых усіх дзядоўскіх страхаў,
Ён і ня охаў, і ня ахаў,
У страху сэрца больш ня ныла.

XLIII

Калі ў жыцьці прышлося страціць,
Шукаць няварта задарма.
Хоць часта сын пытаўся маці:
«Дзе бацька наш, чаму няма
Яго ніколі сярод нас?»
А сам быў сьведка ў гэты час,
Як маці сумна зь цяжкім плачам
Праз сьлёзы сыну гаварыла:
«Забрала бацьку ў нас магіла,
Ніколі мы яго ня ўбачым...»

XLIV

Жыцьцё і сьмерць яны адраньня
Хвалююць мудрасьцю людзей
І чалавек да іх пазнаньня
Заўсёды вобмацкам ідзе.
Існуе сьмерць, як і жыцьцё —
Адное з'явы сужыцьцё.
Дарога вобмацкаў сьляпая
Шляхоў пазнаньня не кароціць
І чалавек, як па балоце,
Па невыдомасьцях ступае.

XLV

Маленства час ёсьць час прыгожы,
Век чалавецтва залаты.
Ён непамерны цяжар ложыць
На плечы хлопца — сіраты.
Штодзень цяжкая праца ёсьць,
А радасьці — часовы госьць
Прыгожы, праца час з'ядае.
Няўмольны лёс гняце і плюшчыць,
Як бура крышыць дрэва пушчы —
Пара так гіне залатая.

XLVI

Люблю цябе, Васіль, гэроя,
Што ты на ўсякую ману,
На ўсё аджытае старое
З другога боку зазірнуў.
Пра філязофію тваю
Я песьню радасьці пяю,
Бо толькі ў мужнасьці, адвазе
Гэроі посьпехам сагрэты,
Да свае цьвёрда крочаць мэты
І на вяршыні горда ўзлазяць.

XLVII

Ідзі дзіцё! Перад табою
Пылае сонца, круціць сьцюжа.
Зьбірайся быць гатовым к бою,
Каб непрадбачнае адужаць.
Душа жыве хай бяз тугі,
Заўсёды гэтакім Багі
Працягнуць руку дапамогі.
Нідзе з Багамі не прапасьці,
Жадаю посьпехаў у шчасьці.
Бывай! Шчасьлівае дарогі!

**(Канец другога разьдзелу)**

**3 ліпеня 1954 г. — 1 чэрвеня 1955 г.**

# Сяргей Палуян

Сяргей Палуян належыць да тых сьветлых дзеячоў беларускае культуры пачатку XX стагодзьдзя, якія пакінулі пасьля сябе прыкметны сьлед.

Аб жыцьці й трагічнай гібелі Сяргея Палуяна вядома няшмат. Нядаўна была знойдзена ў вархіве кіеўскага ЗАГС'у мэтрычная кніга за 1910 год, частка 3-я, аб памерлых пры Марыя-Магдалінскай царкве Кіеўскага Марыінскага дзіцячага прытулку, дзе гаворыцца, што 7 красавіка памёр, а 10 красавіка 1910 г. пахаваны ў веку 20-ці год «Менскай губэрні места Рэчыцы мешчанін Сяргей Эпіфанавіч Палуян». У графе: «Ад чаго памёр?» адзначана: «павесіўся». На пытаньне: «Хто пахаваў і дзе пахаваны?» дадзены адказ: «На падставе адносіны прыстава Лук'янскага ўчастку м. Кіева з 10. IV. 1910 г. за № 15099 сьвятар Мікалай Яронемскі на Кіева-Байковых могілках». Скупыя архіўныя весткі пра С. Палуяна павінны быць дапоўнены яго перадсьмяротным лістам, які быў надрукаваны ў кіеўскай газэце «Рада» зь 10 красавіка 1910 г. У гэтым лісьце малады таленавіты пісьменьнік пісаў: «Жыцьцё ня варта таго, абы жыць. У марах — жыцьцё казка, а ў запраўднасьці — гніцьцё раба і вечная незабясьпечанасьць... Бывайце... Я так люблю жыцьцё, ...ды не на маю долю гэта выпала. Бывайце...» «Шкада паміраць так марна, але трэба...» Перадайце шчырае прывітаньне Беларусам. Багата я думаў зрабіць, ды не зрабіў нічога...».

Чаму С. Палуян жыў у Кіеве, дзе, як паказвае «Адрасная кніга м. Кіева на 1909 і 1910 гг.», навет ня быў прыпісаны, дастаткова ня высьветлена. Таксама, між іншага, застаюцца нявысьветленымі ягоная біяграфія й творчы шлях у цэлым. Вядома, што ў 1909 і ў пачатку 1910 г. С. Палуян знаходзіўся ў Кіеве і быў цесна зьвязаны з украінскай пэрыядычнай прэсай. Ён горача любіў беларускі народ, бачыў у рэвалюцыі 1905 году заранак новага свабоднага жыцьця, захапляўся парасткамі новай рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры. С. Палуян з пачуцьцём глыбокай прыхільнасьці ставіўся да брацкага ўкраінскага народу, да прадстаўнікоў ягонае перадавое культуры. Знаходзячыся ў Кіеве і сыстэматычна супрацоўнічаючы ў друку, С. Палуян быў нібы зьвязвальным зьвяном паміж двума роднымі брацкімі літаратурамі.

У ўкраінскіх часапісах і газэтах ён знаёміў чытача з малавядомай рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратурай Беларусі, прадстаўленай тады імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Пяру С. Палуяна належыць надрукаваная ў часапісе «Українська хата (№ 4, 1910 г., бал. 279-280) у аддзеле «Бібліяграфія» рэцэнзія на хрэстаматыю «Другое чытаньне для дзяцей Беларусаў», складзеную Якубам Коласам. У гэтай рэцэнзіі С. Палуян справядліва крытыкаваў выдадзеныя ў Пецербурзе падручнікі для народнай школы — «Беларускі лемантар» і «Першае чытаньне» — за адсутнасьць у іх разуменьня ўмоваў работы ў школе. «Якуб Колас — вядомы беларускі паэта, былы народны настаўнік, — пісаў рэцэнзэнт. — І тое й другое добра ўплывала на ягоную кніжку, бо й складзена яна адпаведна патрабаваньням пэдагогікі і прывáблівае свайй паэтычнасьцяй. Акрамя таго мае у сабе і асноўныя прыкметы Коласа — ягоную народнасьць і патрыятызм». Дадатнюю ацэнку атрымаў у рэцэнзіі С. Палуяна «Першы беларускі каляндар „Нашай Нівы" на 1910 г.». Сам факт выхаду ў сьвет беларускага кален-

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

# Самабытнасьць...

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

касавіцы і жніве. Ува ўсім гэтым для яго існуе свая музыка, свой рытм. Якраз гэту музычнасьць і рытмічнасьць Купала пераняў ад народу. У ягоных вершах выступае рытм і музыка беларускага сялянскага жыцьця: рытм ворыва, касьбы, малацьбы; рытм народны, стыхійны.

Стылістычна — верш Купалы просты і зразумелы, як простая і зразумелая народная песьня.

Тэматыка Купалы абычмае жыцьцё беларускай вёскі, беларускае нацыянальнае адраджэньне разам зь ягонай ідэялёгіяй і змаганьне за вызваленьне Беларусі. Гэтым тром асноўным тэмам прысьвечана ўся творчасьць Купалы. Але-ж гэтыя тэмы выплываюць зь нетраў беларускага народу, ягонага жыцьця, імкненьняў, ягонага быць ці ня быць. Таму тэматыка гэта самабытная, як самабытным ёсьць у сваім цэлым беларускі народ, які зьяўляецца гэроем усяе творчасьці Янкі Купалы.

У творчасьці Купалы выступае праўда аб жыцьцёвай сіле беларускай нацыі, аб яе лёсе ў мінулым і сучасным. Праўда гэта выплывае з глыбіні душы паэты, яна выяўлена ня толькі розумам, але й пачуцьцямі й інстынктамі паэты. Паколькі-ж гэтай праўдзе Купала прысьвячае ўсё сваё творства — творства гэта становіцца самабытным беларускім паміма волі самога паэты.

Мы як-бы не стараліся бальшавіцкія спэцы хвальшаваньня, ім ніколі ня ўдасца зьнішчыць прыродную беларускую самабытнасьць Янкі Купалы й ягонай творчасьці.

**В. Жук**

Архіп Папліска

# Рэвізор у калгасе

(Гумарыстычны абразок)

(З радыёвай хвалі «Вызваленьня»)

**Дзеючыя асобы:**

1. Іван Іванавіч Ёлопов — рэвізор ад Абкому партыі.
2. Леанід Піліпавіч Няўдалін — старшыня калгасу.
3. Мая Львоўна Асьпенка — калгасны аграном.
4. Васіль Захарэвіч — стары, спрактыкаваны калгасьнік.
5. Ганна — калгасьніца.

**Дзея адбываецца ў калгасе «Чырвонае Шчасьце», на Беларусі. У калгасным клюбе, аграном Мая Львоўна Асьпенка чытае калгасьнікам лекцыю.**

**Аграном** (гаворыць з «савецкім» акцэнтам): Дык як бачыце, таварышы, з мае лекцыі ясна вынікае, што кукуруза — гэта найбольшае дабрадзейства, якім абдарыла камуністычная партыя й савецкі ўрад наш беларускі народ. Кукуруза — гэта довад няўтомных клопатаў аб нас нашай савецкай дзяржавы. Ня было-б камуністычнай партыі і яе мудрай студзенскай пастановы — ня было-б і кукурузы. Хай жыве камуністычная партыя!

(Воплескі)

**Захарэвіч** (плешча даўжэй за іншых крыху зь іроніяй): Дазвольце, таварыш аграном, мне, старому калгасьніку, як той казаў, у парадку дыскусіі... Я вось хачу прыпомніць, што ня толькі кукурузай абдурылі... Цьфу! — хацеў сказаць — абдарыла нас наша родная партыя. Да сьмерці ніхто не забудзецца аб такіх, як той казаў, дабрадзействах, як калгасы, агрaгарады... Усё гэта нам прынесла камуністычная партыя. Але вось скажэце, таварыш аграном, чаму для нас зь яе толку няма?

**Аграном** (хуценька): Што вы сказалі? Што вы сказалі? (павальней). З партыі толку няма?!

**Захарэвіч:** Ды не — я гавару аб апошнім, як той казаў, ейным дабрадзействе — кукурузе. Ня родзіць нешта яна ў нас. Вось у мінулым годзе...

**Старшыня** (перабівае): У мінулым годзе, таварыш Захарэвіч, была іншая стацыця. Я, як новы старшыня, адразу зразумеў студзеньскія пастановы пленуму ЦК КПСС і ўсе арганізацыйныя недахопы ў гэтым калгасе. (Сякучы). У гэтым годзе ўсё ўлічана.

**Захарэвіч:** Але-ж ня толькі ў нас не ўрадзіла — і ў іншых калгасах было тое самае.

**Старшыня:** (срога): Як відаць, таварыш Захарэвіч, вы ня цікавіцеся прэсай. У раённай газэце было ясна сказана — я-ж сам пісаў — што ў калгасе «Шлях Леніна» вінавайцай за неўраджай была МТС, у калгасе «Ударнік» вінаваты аграном, у калгасе «За Радзіму» — старшыня. А наагул — пасьля паездкі нашых праваднікоў у Югаславію — стала ясна, што ўва ўсім вінаваты Бэрыя. (Урачыста). Цяпер, узброеныя студзенскай пастановай партыі...

**Ганна** (убягае, задыханая): А Божа-ж-мой! Нейкі рэвізор прыехаў. На самай «Пабедзе» кажуць. з ордэнам. Пэўна з самога цэнтру. І проста сюды прэ...

**Старшыня** (дрыжучы): Рэвізор?! Спакойна, таварышы, спакойна! Нам няма чаго баяцца. Мы з гонарам выконваем усе пастановы партыі. (Ціха). Ганна, бяжы загані мае сьвіньні й каровы ў калгасную фэрму. І бухгальтара папярэдзь — ён знае, што рабіць. А жонцы скажы, каб закуску рыхтавала! (Чуваць гук самаходу. Старшыня ў голас). Мы, таварышы, усе за студзенскія пастановы...

**Рэвізор** (стукае й адразу ўваходзіць). Здрасьце! (Не чакаючы на адказ): Дык гэта, стала быць, і ёсьць калхоз «Чырвонае Шчасьце».

**Старшыня** (нясьмела): Дазвольце, таварыш... (заціхся).

**Рэвізор:** Іван Іванавіч Ёлопов, прэдседацель камісіі па выкананьні студзенскіх пастановаў пры Абкоме партыі. А вы, стала быць, прэдседацель калхоза?

**Старшыня** (бойка, павайсковаму): Так точна, таварыш прэдком! Леанід Піліпавіч Няўдалін, былы старшыня райвыканкому. На загад партыі дабраахвотна адкамандаваны ў калгас, каб падзяліцца арганізатарскай практыкай з калгасьнікамі для буйнага ўздыму сельскагаспадарскай вытворчасьці. Я, тав. Ёлопаў — выбачце, тав. прэдком...

**Рэвізор** (перабівае, ласкава): Для Вас — проста Іван Іваныч. Я віджу, што Вы свой чалавек. Я ведзь таксама толькі нядаўна на гэтым адказным пасту. Раней быў завторгканторы...

**Захарэвіч:** А мы, тав. начальнік, ужо даўно, як той казаў, на гэтым адказным пасту. Ой даўно...

**Рэвізор:** І мяне пакліканьне даўно ўжо цягнула да прыроды. Тут рэчка, шум лесу...

**Захарэвіч** (хутка ўстаўляе): і кукуруза...

**Рэвізор:** Стала быць, па душы й я калхозьнік... (паказваючы на агранома). А гэта што за маладая лічнасьць?

**Старшыня:** Гэта наш аграном.

**Аграном** (нясьмела): Дазвольце прадставіцца: Мая Львоўна Асьпенка. Скончыла поўны курс агітатараў і прысьпешаны курс агранамаў.

**Рэвізор:** І як работа?

**Захарэвіч** (умешваецца): Яна у нас, як той казаў, удалася, таварыш начальнік. За 2 месяцы ўжо ячмень ад жыта адрозьнівае.

**Рэвізор** (больш срога): А як з кукурузай?

**Захарэвіч:** З кукурузай? Хм — студзенскія пастановы напамяць ведае...

**Старшыня** (перабівае): Мы, Іван Іванавіч, за новыя мэтады. Па маёй ініцыятыве, Мая Львоўна ўжо 22 лекцыі прачытала аб значэньні студзенскіх пастановаў. А то як я сюды прыехаў, дык стары аграном больш сядзеў і з грудкамі зямлі вазіўся.

**Рэвізор:** Адабраю, адабраю. (Афіцыйным тонам): Я, таварышы, чалавек акцыі. Таму прапаную пайсьці і аглядзець пасевы кукурузы.

**Старшыня:** А можа Іван Іванавіч галодны? Можа-б зрабілі мне гонар і перакусілі ў мяне?

**Рэвізор:** Вы, відно, ня чулі новай песьні «Первым дзелом, первым дзелом кукуруза...»

(адыходзяць)

**Старшыня:** Вось мы, можна сказаць, і на месцы.

**Рэвізор:** Гм, дык гэта і ёсьць кукуруза!

**Захарэвіч:** Ды ня гэта. таварыш начальнік. Кукуруза з другога боку. А гэта каноплі!

**Рэвізор:** Ка-ноплі?! Таварыш аграном, ці ў студзенскіх пастановах гаварылася пра каноплі?

**Аграном:** Гаварылася, таварыш прэдком.

**Рэвізор:** Адабраю. Але я тут па кукурузнай лініі.

**Аграном:** Як бачыце, таварыш прэдком, у нас пасаджана па апошніх дырэктывах партыі — квадратна-гнёздавым спосабам.

**Рэвізор:** Квадратна-гнёздавым, кажаце? Добра. Саме важнае, што гнёздавым. А як з гноем?

**Аграном:** І гною давалі.

**Захарэвіч** (з дакорам): Найлепшы гной сюды ўвалілі. Праўда, яго ў нас шмат і ня было.

**Рэвізор** (урачыста): Таварышы! У дапаўненьне да студзенскіх пастановаў таварыш Хрушчоў заявіў, што ў кажнае гняздо кукурузы трэба класьці па поўкілаграма гною. Ад кукурузы залежыць камунізм. Стала быць, з гэтага відаць ясна, што гной — гэта фундамант камунізму!

**Захарэвіч:** Вось дык праўда! І Ленін лепш не сказаў-бы.

**Рэвізор** (працягвае): Я, таварышы, былы работнік торгканторы. Таму я ведаю, што калі таварыш Хрушчоў казаў пра поўкілаграма, дык меў на ўвазе 500 грамаў. Не 490 і не 510, таварышы! Таму на наступны раз прыказваю ўжываць вагу. А за вытворчасьць гною раблю адказным асабіста вас, таварыш прэдседацель!

**Старшыня:** Для партыі й таварыша Хрушчова я гатоў на ўсё, Іван Іванавіч. Усе свае арганізатарскія здольнасьці аддам.

**Рэвізор** (ласкава): Я так і знаў. Ну, а цяпер можна й адпачыць. Абавязкі выкананыя.

**Старшыня** (лісьліва): Дык можна, Іван Іванавіч, да мяне? На сьвінінку ды на чарку-другую гарэлкі?

**Рэвізор** (ціха): Спадзяюся, самагонка ня кукурузная?

**Архіп Папліска**

# З падарожжа да Нью Брансьвіку

Уставічныя Ньюёрчане ў канцу кажнага тыдня выяжджаюць на сяло, каб падыхаць сьвежым паветрам і аднавіць свае сілы да працы ў наступным тыдню. Гэта й завецца weekend (канец тыдня). Здаецца, адылі, з нашае эміграцыі, старое й новае, мала хто гэта робе. Нашым людзём здаецца, што яны й так вытрываюць, без аднаўленьня энэргіі. Аўтар гэтых радкоў ня ёсьць выняткам. Адылі, я прышоў да перакананьня, што калі няма вольнага ад работы і ад цяжкога вогкага ньюёрцкага паветра канца тыдня, дык прынамся трэба мець тыдзень-другі што году вакацыі. Дзеля таго ўжо чатыры гады абяцаю свайму прыяцелю і суседу з Бацькаўшчыны прыехаць да яго да Бікену на тыдзень і да сёлетняга году ня мог гэтага споўніць. Але сёлета такі споўню.

Перш, чымся да Бікену, я выехаў 17 чэрвеня на пару дзён да Нью Брансьвіку, найбліжшага ад Нью Ёрку места з адзьдзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Дарога трывае гадзіну аўтобусам. Нью Брансьвік — места ў Нью Джэрсі стэйце з 35 тысячамі жыхароў. Сваёй прыродаю яно не падобнае да Н. Ё. Тут поўна зяленіва. Усе вуліцы — прысады, ды шмат паркаў.*) Адна загана — няма блізка вады купацца.

Але з гледзішча цывілізацыйнага, культурнага і, пэўне ў ладнай меры, гаспадарскага, Нью Брансьвік, гэта маленькі Нью Ёрк; з выняткам опэры і некаторых іншых вялікіх установаў, тут ёсьцека ўсё тое, што і ў Нью Ёрку. Ёсьць і ўнівэрсытэт. Дыкжэ ўнівэрсытэт стэйту Нью Джэрсі месьціцца на перадмесьцю Нью Брансьвіку ў будынках сярод паркаў.

Як было зацемлена на пачатку, у Нью Брансьвіку ёсьць адзьдзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня — усяго сяброў разам із колькімі із суседняга Саўт Рывэру 59 чалавекаў. Калі да гэтага дадаць іхныя дзеці, дык будзе каля сту чалавекаў. Гэта людзі — кажу праз выраслых — што пражылі цяжкія часіны ў мінуласьці, а бальшыня, калі ня ўсе, і нябясьпечнасьці, каторыя пагражалі іхнаму жыцьцю і забралі на той сьвет сяброў некаторых радзімаў. Доля некаторых жывых асталася ззаду ад таго, чаго яны вартыя. Колькі радзімаў (Стомы, Стагановічы, Родзькі [із зяцем], Кажуры, Ярашэвічы), з каторымі я маў прыемнасьць бліжэй пазнаёміцца, могуць быць найлепшымі зразамі радзімаў беларускіх.

Усе тут Беларусы цяжка працуюць, але зь вельмі радкімі выняткамі, досыць добра зарабляюць (жанкі меней за мужчынаў). Выказаліся ня толькі працаўлівасьцяй, але й здольнасьцьмі. Некаторыя адзначыліся як майстрове — Вал. Лосік і П. Кулеш як будаўніцкія тэхнікі, Я. Чыгіровіч — майстра на ўсе рукі, В. Стома, кравец, залажыў кравецкую майстроўню і працуе ў ёй ад сямёх гадзінаў нараніцы да дзевяцёх увечары. Прыйшоўшы з хвабрыкі ўвечары яму памагае сястра.

Адзьдзел Задзіночаньня тут складаецца блізу з адных інтэлігентаў, дарма што часьць іх із сьціпласьці сябе за інтэлігентаў не ўважае. Усе вышменаваныя запраўдныя інтэлігенты. З гледзішча формальнага, докумэнтальнага, за інтэлігента ў Усходняй Эўропе ўважалі тых, што скончылі, прынамся сярэднюю школу. Як кажная формальнасьць, так і гэтая можа разыходзіцца з праўдаю. Запраўды-ж, і подле навуковага азначэньня, інтэлігентам ёсьць той, хто ўмее прытарнавацца да кажных акалічнасьцяў. Калі інтэлігент будзе эгоістым, ён прытарнуецца да акалічнасьцяў, маючы наўвеце свае асабістыя эгоістычныя патрэбы, а чалавек ідэйны прытарнуецца з гледзішча на патрэбы свайго народу.

**Навука.**

Маю наўвеце навуку ў высокіх школах (колегіях, унівэрсытэтах). Т. Стагановічанка за год скончa факультэт мастацтва. Ейны брат, што студыяваў ужо ў Нямеччыне, мусіў перарваць навуку, каб даць магчымасьць вучыцца сястры. Цяпер ён у войску. За 6—9 месяцаў зьвернецца з войска і пойдзе на ўнівэрсытэт. За год скончa ўнівэрсытэт Васіль Р. і ягоная жонка Галіна (Родзьчышка). Галава вышменаванае радзімы Ярашэвічаў вучыцелька (у Бацькаўшчыне), удава. Дарма, што сама няўздолее (мае хворыя ногі, ня можа працаваць стоячы), вывучыла сына за інжынера (цяпер ён у войску), старшая ейная дачка скончыла колегію із залатой мэдаляй і мусіла перарваць навуку, каб даць магчымасьць вучыцца малодшай сястры, каторая сёлета паступіла ў колегію ў Нью Брансьвіку. Прыклад із Ярашэвічамі й Стагановічамі паказуе як патрэбна ў нас крэдытнае таварыства памогі студыюючым. Наагул у нашых людзёў ня толькі ёсьць здольнасьць, але праяўляецца і ахвота да высокае навукі. І трэба, каб імкненьне да навукі павялічалася, каб ня было ніводнага здольнага да навукі Беларуса й Беларускі, каторыя-бы ня скончылі высокае школы. А хто ня здольны да навукі, няхай вучыцца рамяства, каб гэткім парадкам усе штось значылі.

Пры менаваным культурным стане Ньюбрансьвіцкага Адзьдзелу Задзіночаньня ня цяжка тут было-б весьці сваю культурна-асьветную працу, стварыўшы культурна-асьветную сэкцыю з асобным рэфэрэнтам (-каю) на чале. Гэта таксама было мэтаю майго сюды прыезду. Можна быць пэўным, што ў бліжшым часе культурна-асьветная праца тутака пачнецца. Цяпер тут ёсьць дапаўняючая да амэрыканскай беларуская школка для дзяцей. Вучаць: Ф. Родзька і В. Кабушка. На розныя імпрэзы нашы Ньюбрансьвікцы прыяжджаюць да Нью Ёрку. Гэтак хай-бы заставалася й на далей ды яшчэ была-б дадана культурная праца.

Можна зацеміць, што ў Нью Брансьвіку лягчэй і спарней можна працаваць, бо тут ня было спробаў разьбіцьця беларускага нацыянальнага кірунку і ня было узурпацыйнае групы, што сама не рабіла-б і не дапушчала іншых да работы. Дзеля таго тут паміж нашых людзёў ёсьць узаемны давер і пашана.

У Нью Брансьвіку ёсьць прыход Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Службу Божую служа а. Сьцяпан Войтанка. Калі я быў, звыш паловы багамолцаў пяяла ў царкоўным хору, каторым кіруе сп. Філарэт Родзька. Трэба быць на службе Божай у сваёй беларускай царкве, чуць малітву за беларускі народ, пеяньне ня толькі пацаркоўнаславянску, але й пабеларуску, каб зразумець усё вялікае значэньне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Злучэньне справы рэлігійнае із справай нацыянальнай узмацняе адну й другую.

☆

Каля 8-ёх клм. ад Нью Брансьвіку ёсьць местачка Саўт Рывэр. Тут жывець колькі радзімаў нашага Задзіночаньня. А наагул Саўт Рывэр — гэта сталіца Зарубежжа. Тут гаспадарствуе а. Лапіцкі, зайздросна ізолюючы й сьцерагучы свае авечкі ад «крывіцкага» ўплыву, дарма што з гэтага боку ім нічога не пагражае.

**Брачыслаў Скарыніч**

*)Найлепшая вуліца ўся занятая гаспoдамі адных лекараў. Нашто іх тут так шмат? Калі вышла з гаворкі, то нельга не зацеміць, што ня толькі хваробы, колькі лячэньне іх ёсьць проблемаю нашае эміграцыі, старое й новае. Лячэньне ў Амэрыцы надта дарагое. Можна шмат зарабляць і шмат зарабіць, але калі цяжка захварэеш, дык выдасі ўсё і яшчэ ня стане. Ці не маглі-б, хоць часткава, гэтай бядзе памагчы нашыя беларуска-амэрыканскія лекары? З другога боку, як ні дарагая ў Задзіночаных Гаспадарствах лекарская навука, трэба мець наўвеце, каб і тут узгадаваць крыху новых лекараў.

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

## СТУДЭНЦКАГА СТЫПЭНДЫЯЛЬНАГА ФОНДУ (ССФ) ПРЫ ЦБАА ДА ДАЎЖНІКОЎ

Дарагія Сяброўкі й Сябры!

У цяжкі час студыяў у Нямеччыне, які Вам напэўна добра застаўся ў памяці, ССФ прыйшоў і Вам з дапамогай, дзякуючы ахвярнасьці беларускага грамадзтва на эміграцыі.

Лісты ахвярадаўцаў паказваюць, што ня толькі асобы з вышэйшай ці сярэдняй асьветай, але таксама, а навет перадусім людзі з пачатковай асьветай разумелі становішча й патрэбы студэнтаў ды шчодра дзяліліся зь імі сваім сьціплым майном ДП. Сьведамасьць гэтага факту забавязвае маральна кажнага былога студэнта, што скарыстаў з гэтае дапамогі.

Мы ня маем права забывацца таксама аб сучасным становішчы нашых студэнтаў. Некаторых зь іх цяжкія матарыяльныя ўмовы прымусілі апынуцца ў тубэркулёзных санаторыях, іншыя здабываюць асьвету, працуючы ўначы ці на сэзонных работах. Палажэньне гэтых студэнтаў павінна ляжаць на сэрцы ня толькі Управе ССФ, але й кажнаму Беларусу, а перадусім былым студэнтам.

Ідэя студэнцкае самапомачы напэўна так старая, як само студэнцтва; зрэалізаваная ў нас у форме ССФ, яна не павінна загінуць, а ўтрымаць вызначаную арганізатарамі цягласьць, дзе старэйшыя засільваюць касу студэнцкага фонду, каб даць магчымасьць студыяваць малодшым.

Эмігранцкі лёс закінуў Вас недзе далёка ды паставіў у новыя ўмовы жыцьця й працы. Мы пэўныя, што пры добрай волі і Вы зможаце адлажыць частку свайго заработку на аплату стыпэндыі ці аднаразовае дапамогі, выплачаных Вам калісь Студэнцкім Стыпэндыяльным Фондам у форме пазыкі — сумы на сяньня невялікай, якая аднак часта была для Вас адзіным выхадам з становішча ў цяжкім палажэньні студэнта. І сяньня Ваша невялікая сума мае вялізарнае значэньне для патрабуючых.

Можа Ваша ацэна гэтага звароту будзе гэткая: «Зашмат словаў у гэтак яснай справе». Згаджаемся з Вамі, бо-ж справа вымагае ня словаў а дзеі. Але гэта ўжо залежыць ад Вас. Мы лічым на Вас, і просім закрануць гэтае так важнае пытаньне ў коле Вашых сяброў і знаёмых. Супольна мы лёгка зможым зактывізаваць шляхотную акцыю дапамогі студэнцкай моладзі, што знаходзіцца ў цяжкіх матарыяльных абставінах.

За прыдзел дапамогі паводле найпільнейшай патрэбы, Управа ССФ гварантуе поўнай сьведамасьцяй адказнасьці ды вартасьці грамадзкіх грошаў.

Аб Вашай задоўжанасьці ў пераліку на амэрыканскія даляры Управа ССФ паведаміць Вас адмысловым лістом (калі Ваша месца жыхарства нам ведама) або нашага прадстаўніка на краіну ці правінцыю. У выпадку неатрыманьня гэткага паведамленьня, просім зьвярнуцца да скарбніка ССФ, на адрыс: R. P. Fr. Čarniauski, Abbaye Mont César, Louvain, Belgique.

Пералік стыпэндыяў і пазыкаў на амэрыканскія даляры наступны: 1 ам. даляр за атрыманыя 10 RM. ці 3 DM.

Зь сяброўскім прывітаньнем

**Управа**
**Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду**



# Фізычнае выхаваньне у БССР

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

У 1931 г.распрацоўваецца фізкультурны камплекс «Гатоў да працы й абароны СССР» (ГПА), які і стаўся асновай масавае фізкультурнае акцыі. У 1936 г. Усесаюзны савет фізкультуры рэарганізоўваецца ўва Ўсесаюзны камітэт для справаў фізкультуры і спорту пры Савеце Народных Камісараў СССР, а з саветаў фізкультуры на мясцох у форме камітэтаў ствараюцца ворганы дзяржаўнага кантролю і кіраўніцтва справаў фізкультуры й спорту ўва ўсім СССР.

У 1939 г. быў устаноўлены Ўсесаюзны дзень фізкультурніка як штогадовае сьвята, якое прыпадае на 18 ліпеня.

**БССР перад «Спартакіядай народаў СССР»**

У ліпені й жнівені 1956 г. у Маскве адбудзецца Спартакіяда народаў СССР. У спаборніцтвах з 21 відаў спорту возьмуць удзел да 10 тысяч спартсмэнаў — прадстаўнікоў 16 савецкіх рэспублік (прыблізна па 500 чалавек ад кажнае), а таксама Масквы й Ленінграду.

Справе абароны нацыянальнага спартовага гонару паасобных савецкіх рэспублік расейскі шавінізм ня перашкаджае ў такой ступені, як у іншых дзялянках. Таму зусім зразумела, што побач з агульнай увагай, прысьвячанай спорту, заклапочанасьць спартыўнай спраўнасьцяй у паасобных рэспубліках павялічваецца якраз мамэнтам спартакіяды.

Ужо сёлета мае адбыцца цэлы шэраг рэспубліканскіх і ўсесаюзных спартакіяд у парадку падрыхтаваньня да Спартакіяды народаў СССР. Да такіх мерапрыемстваў будуць належаць, прыкладам, летняя спартакіяда прафсаюзаў (фінальныя спаборніцтвы ў Маскве ад 13 да 20 жнівеня), усесаюзная спартакіяда вучняў школ (у Кіеве ад 20 да 26 жнівеня), летняя спартакіяда студэнцтва ВНУ ў Ленінградзе, усесаюзная спартакіяда сельскіх фізкультурнікаў і г. д.

Як-жа выглядае БССР з гледзішча спартовае спраўнасьці?

Кіраўнікі спартовага жыцьця на Беларусі пачынаюць біць трывогу. 29 травеня ў «Советской Белоруссии» была зьмешчана адмысловая перадавіца на гэтую тэму, дзе не хавалася непакою з прычыны адставаньня беларускіх спартсмэнаў на ўсесаюзным форуме. Трывогу выклікае плаваньне і лёгкая атлетыка. У нядаўна адбытых спаборніцтвах на пяршынство СССР беларускія гімнастыя, раварыстыя, лыжнікі і штангістыя занялі сёмыя месцы, а валейбалістыя і баскетбалістыя навет не ўвайшлі ў дзесяткі мацнейшых.

Як адна з прычынаў гэтага адставаньня, падаюцца «канцылярска-бюракратычныя мэтады кіраўніцтва» ў працы камітэту фізкультуры, а таксама адсутнасьць добра пастаўленай праверкі прынятых пастановаў».

У перадавіцы камсамольскай «Чырвонай Зьмены» з 15 чэрвеня падавалася й іншая прычына — нястача кваліфікаваных трэнераў. Як даведваемся, на Беларусі працуюць тры фізкультурныя тэхнікумы і адзін інстытут з агульнай колькасьцяй каля 1 000 навучэнцаў. Аднак «Чырвоная Зьмена» жаліцца, што «ўсё-ж гэтыя кадры могуць ахапіць толькі невялікую частку моладзі, якая жадае займацца спортам». Таму яна заклікае «на дапамогу кваліфікаваным трэнерам «грамадзкіх інструктароў фізкультуры, падрыхтаваных на курсах і сэмінарах зь ліку найбольш здольных спартсмэнаў». Пры гэтым мы даведваемся, што ў шмат якіх калектывах фізкультуры ўся навучальная работа ў сэкцыях бадай цалкам ускладзена на такіх «грамадзкіх трэнераў». Як бачым і ў дзялянцы фізкультурнай на Беларусі, як і ў шмат іншых, адчуваецца войстрая нястача людзей-кіраўнікоў. Няма аднак найменшага сумлеву, што існуе яшчэ цэлы рад іншых прычынаў адставаньня беларускіх спартсмэнаў, аб якіх не напіша ніводная савецкая газэта, і аб якіх мы скажам крыху пазьней.

**(Далей будзе)**

**А. Будзіч**

# Яшчэ адзін ліст да Пятруся Броўкі

**(З радыёвай хвылі «Вызваленьня»)**

Ніжэй мы зьмяшчаем ліст калішняга лейтэнанта 44-ай Пяхотнай дывізіі, Анатоля Дуброўскага — да старшыні Саюзу пісьменьнікаў савецкай Беларусі Пятруся Броўкі.

Анатоль Дуброўскі жыве цяпер у Канадзе, у горадзе Монтрэаль. У сваім лісьце ён піша: «чачу вам, Пятрусь, прыпомніць аб сабе. Я правёў сваю маладосьць у роднай Беларусі і вельмі добра знаю ня толькі Вас, але і ўсю Вашую сям'ю. Я вучыўся разам з вашай сястрой Валяй і знаў яе яшчэ тады, калі яна хадзіла ў школу, што знаходзілася ў мястэчку Пышна. Знаў я добра й Вашага брата Алёшу ды іншых Вашых братоў. Алёша на маіх вачох ледзьве скончыў Лепельскі пэдагагічны тэхнікум, і то дзякуючы Вашай дапамозе.

Знаю я таксама добра й вёску Лукашэвічы, Ушацкага раёну, Віцебскай вобласьці, дзе Вы радзіліся. Знаёмы быў з вашымі бацькамі — простымі добрымі сялянамі. Спатыкаўся часта і з Вамі ў Лепелі, Магілеве й Менску. Такім чынам, як бачыце, я ведаў жыцьцё ўсёй вашай сям'і. Памятаю, як у ліпені 41-га году Вы ўцякалі разам з ЦК Беларусамі на ўсход, калі я, як і шмат іншых, ішлі на Захад, каб бараніць Бацькаўшчыну ад нацыстых.

Я ўсю вайну быў на фроньце, але з акопаў назіраў за Вамі. Да мяне на фронт трапіла ваша кніга вершаў «Да родных берагоў», якая была выдадзена ў 43-ім годзе. Мне тады здалося, што вялікія падзеі ўплынулі на Вас і змусілі Вас зрабіць зьмены ў сваім палітычным творстве, пайменна перайсьці ад дробнага падлізьніцтва да праўдзівых патрыятычных тэмаў. Але я памыліўся. Вы не зьмяніліся і за час вайны.

Мне пашчасьціла трапіць на Захад, але й адсюль я сачу за Вашай дзейнасьцяй. Я ня зьдзівіўся, калі прачытаў, што 7-га чэрвеня 47-га году Вас узнагародзілі Сталінскай прэміяй. Ня зьдзівіла мяне й Ваша выступленьне на 2-ім Зьезьдзе пісьменьнікаў савецкай Беларусі ў чэрвені 49-га году, на якім Вы заявілі, што пуцяводнымі агнямі ў нашай пісьменьніцкай дзейнасьці былі й будуць гістарычныя пастановы ЦК ВКП (б). Вашае падлізьніцтва дало Вам і ў 51-ым годзе Сталінскую прэмію. І ўсё гэта за ролю палітрука пры беларускай паэзіі. Для Вас паэзія — гэта толькі спосаб, каб прапхнуцца наперад па партыйнай лініі. І Вы гэта добра ведаеце.

Можна спрачацца аб якасьцях і недахопах мастацкай творчасьці нябожчыка Янкі Купалы або Коласа, але, няма ніякага сумлеву, што яны сапраўдныя паэты. Вашая-ж роля палягала не на ўзбагачваньні беларускай літаратуры, а на тым, каб сачыць за ёй і выкрываць найменшыя адхіленьні ад партыйнай лініі.

Вы толькі крочыце за сваімі партыйнымі кіраўнікамі, і ў вашым вершы «Восень» я знайшоў адбітак якраз гэтых дырэктываў партыі. Вы гаворыце аб свабодным жыцьці й дабрабыце беларускага селяніна, хоць Вы самі паходзіце зь вёскі і добра ведаеце цяжкую долю нашага земляроба. Вы пішаце аб дабрабыце калгасьнікаў. А хіба-ж вашая сястра Валя, якая прыбягала ў школу зь невялічкім акрайчыкам хлеба на ўвесь дзень, магла пахваліцца дабрабытам?

Ведайце, Пятрусь Броўка, што мы якія жывём у вольных краінах, ацэньваем паэзію па яе якасьці й шчырасьці. А якраз ні аднаго, ні другога ў вашых вершах няма. Калі я думаю пра вашую паліцыйную дзейнасьць у беларускай літаратуры, дык прыпамінаю словы Сяргея Ясеніна да Дзям'яна Беднага: «Ты талент свой малы пакрыў вялікай ганьбай».

# Веснавая сяўба на Беларусі

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

Упарта накідваная, так званая квадратна-гнёздавая пасадка бульбы, кукурузы, цукровых буракоў і іншых культураў зрываецца. Як паведамляюць савецкія газэты, з агульнай плошчы, толькі 67,4 працэнтаў бульбы пасаджана квадратна-гнёздавым спосабам. У калгасах Аршанскага раёну гэтым «прагрэсыўным спосабам» пасаджаныя толькі 207 гэктараў з агульнай плошчы 1731 гэктараў.

Ня гледзячы на значны недахоп угнаеньняў, на складах Сельхозспаба гадамі ляжыць ня вывезенае калгасамі мінэральнае ўгнаеньне. На першае чэрвеня сёлета на складах ляжыць больш 40 тысяч тонаў угнаеньняў.

У чым-жа прычына няўдач веснавой сяўбы ў гэтым годзе на Беларусі? Кукуруза прынесла шмат клопатаў. Хоць камуністычная прапаганда і ўзнагародзіла кукурузу рознымі прыгожымі эпітэтамі, як «цудоўная культура», «чэмпіён палёў», а Хрушчоў назваў кукурузу «магутнай культурай», недавер да яе не адолены. У мінулым годзе кукуруза не дала пераканальных доказаў, што сілас зь яе у шмат разоў карысьнейшы за ячмень, авёс, карняплоды. А між тым камуністычнае кіраўніцтва стараецца ў бліжэйшыя два гады зусім выцясьніць з палёў Беларусі ячмень і авёс. У шмат якіх калгасах і саўгасах ужо сёлета ячмень скарочаны на 65-70 $^{0}/_{0}$, а авёс на 80-90 $^{0}/_{0}$.

Пасевы кукурузы патрабуюць пільнага дагляду і апрацоўкі. Ужо цяпер у савецкім друку зьмяшчаюцца зацемкі, што за «апрацоўку» кукурузы «узяліся найгоршыя шкоднікі сельскагаспадарчых расьлінаў. Апрача гракоў моцна выказвае сябе чарвяк дратавік». Зарастае кукуруза таксама сьвірэпкаю і хвашчом.

Моцна зацягваецца праца сіласных будоўляў. Неперарможаныя перашкоды стаяць на шляху гэтай працы, бо цэмэнт, цэгла і іншыя матарыялы цяжка дастаць. Ёсьць пагроза, што шмат зялёнай масы прападзе і ня будзе выкарыстана на сілас.

Увесь гэты камплекс цяжкасьцяў і недаверлівыя адносіны ў ратавальную моц Хрушчоўскай «магутнай культуры» бязумоўна ускладніў веснавую сяўбу ў бягучым годзе. Гэта мела ўплыў на выкананьне пасяўных плянаў усіх культураў. Безагляднае, шаблённае і прымусовае ўкараненьне кукурузнага сіласу вельмі дорага абыйдзецца. Дайшло гэта і да камуністычнага кіраўніцтва. Сакратар ЦК камуністычнай партыі Беларусі Патолічаў, які на нарадзе 21-22 чэрвеня сёлета аб датэрміновым выкананьні заданьняў студзеньскага пленуму ЦК КПСС адзначыў:

«Мы ня можам ня ўлічваць таго факту, што поруч з бульбаю на Беларусі зьявілася на вялікіх плошчах яшчэ адна культура — кукуруза, якая таксама патрабуе ўрадлівых зямель, шмат угнаеньняў і добрай апрацоўкі. Аднак мы павінны ўлічваць, што частка калгасаў у гэтым годзе «ўшчаміла» бульбу, гэта значыць пасеялі яе не на лепшых землях, недастаткова ўгноеных» («Советская Белоруссия» 25. 6. 1955).

Хрушчоўскія шаблённыя экспэрымэнты ў сельскай гаспадарцы давялі да сумных вынікаў сёлетняй веснавой сяўбы, якія бязумоўна будуць мець цяжкі адбітак на марным існаваньні калгаснага сялянства. У Рызе на парадзе працаўнікоў сельскай гаспадаркі на скаргі аб цяжкасьцях кіраўніцтва ўзбуйненымі калгасамі Хрушчоў адказаў: «трэба падумаць і падыйсьці да гэтага пытаньня разумна. Там, дзе патрэбна — пайсьці на разбуйненьне». Магчыма, што прынёсшы нязьлічоную шкоду народу, Хрушчову прыдзецца «разумна» падыйсьці, каб адмовіцца ад прымусовага ўвядзеньня кукурузы. Ніхто-ж іншы, як Хрушчоў ад 1950 году ўпарта і прымусова праводзіў узбуйненьні калгасаў па ўсім Савецкім Саюзе, лічачы ўзбуйненьне патэнтаваным сяродкам дзеля падняцьця эканомікі калгасаў.

**В. Будзімер**

